ЛІМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

22 САКАВІКА 1996 г. № 12 (3836) Кошт 2 500 руб.

Рыгор БАРАДУЛІН

# РЫЦАР ЗБРОЙНЫ НА КАНІ

Рыцар збройны на кані
Скача
Блізка сем стагоддзяў,
Каб нашчадак
След знаходзіў
Да крывіцкай чысціні.

Рыцар збройны на кані
Скача
Са святым пасагам —
З Бел-Чырвона-Белым Сцягам.
Беларусь,
Душу ўхіні!

Не расцісне далані,
Покуль Край
Не ўбачыць волі,
Не апусціць меч
Ніколі
Збройны рыцар на кані!

Анатоль ВЯЛЮГІН

# КАРЧМА ПРЫ ДАРОЗЕ

Імя,
беларус, выбірай
радзіме са сцятай душой:
ці
"Северо-Западный край",
ці
"Это колхоз небольшой".
У стольных мужоў сумятня.
З прамоў
а ці будзеш здароў?
Свае чужаземцы
штодня
чакаюць усходніх дароў.
А помніш
шкілеты бяроз
і ў лісцях дарогі раскат?
Цярэбяць краіну
на звоз,
як некалі вецце прысад.
Карчма пры дарозе,
карчма —
балююць бандыт і гандляр.
Ні праўды,
ні веры няма,
а Богам
залёны даляр.
Такое было не сасніць,
угнуўшы рамёны,
лягло,
бяскрыліла нас,
як сініц
на зімнім падворку сіло.
У полі
кусціцца лаза.
Баліць нам Чарнобыль яшчэ.
Гаротніца Прыпяць —
сляза
у светлай Зямлі
на шчацэ.

*1994*

*Пра прэм'еру кнігі А. Вялюгіна "Заклён на скрутны вір" чытайце на стар. 3.*



***78 гадоў назад пад гэтымі сімваламі адрадзілася незалежная Беларусь...***

*Фота А. МАЦЮША.*

Напярэдадні

# "НЕ!" — ДЫСКРЫМІНАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны праводзіць 30 сакавіка 1996 года ў Доме літаратара Нацыянальную навуковую канферэнцыю "Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны аспекты". Будуць заслуханы пленарныя даклады доктара гістарычных навук Л. Лыча "Беларуская мова як аб'ект дзяржаўнай дыскрымінацыі (гістарычны аспект)", кандыдата філалагічных навук Л. Баршчэўскага "Беларуская мова на палітычнай арэне Беларусі канца 80-х — сярэдзіны 90-х гадоў", доктара філалагічных навук Г. Цыхуна "Дэфармацыя ў сістэме беларускай літаратурнай мовы ў гады таталітарызму".

Арганізацыйны камітэт канферэнцыі знаходзіцца па адрасе: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (0172) 33-25-11.

Пачатак рэгістрацыі ўдзельнікаў а 9 гадзіне 30 сакавіка.

Мяркуецца, што канферэнцыя будзе працаваць з 10 да 18 гадзін.

Плануецца выдаць зборнік матэрыялаў канферэнцыі. Тэксты артыкулаў (аб'ём да 10 старонак машынапісу праз 2 інтэрвалы) будуць прымацца падчас работы канферэнцыі.

●

На гарадскім сходзе прадстаўнікоў суполак Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, прадпрыемстваў, ВНУ, арганізацый, настаўнікаў і бацькоў вучняў беларускамоўных школ, што прайшоў у Віцебску, прынята "Заява віцябчан у абарону беларускай мовы". У ёй гучыць трывога з-за таго, што працягваецца наступ на беларускую мову і культуру, тармозіцца працэс адраджэння беларускасці ў сферы ўсяго грамадскага жыцця. Становішча асабліва ўскладнілася пасля правядзення рэферэндуму. Калі ў мінулым навучальным годзе ў Віцебску па-беларуску навучалася ў школах 3300 вучняў, у тым ліку 698 у амаль сарака першых класах, дык у гэтым годзе іх ужо — каля 2000 і толькі пяць першых класаў. Адзіная гімназія са статусам беларускамоўнай пераходзіць на рускую мову.

Удзельнікі сходу патрабуюць, каб у Рэспубліцы Беларусь выконваліся Канстытуцыя і законы дзяржавы, накіраваныя на моўнае і культурнае адраджэнне; аднавіць пісьмовы экзамен для выпускнікоў сярэдніх школ па беларускай мове; каб ва ўсіх ВНУ абавязкова здаваўся ўступны экзамен па беларускай мове і літаратуры, ствараліся беларускамоўныя патокі...

На думку ўдзельнікаў сходу, кожны службовец павінен валодаць беларускай і рускай мовамі і ў кароткі тэрмін здаць экзамен на адпаведнасць валодання мовамі ў межах сваёй службовай кампетэнцыі, а вышэйшыя службовыя асобы і выбраннікі народа павінны дэманстраваць веданне і павагу да беларускай мовы і культуры Беларусі.

Прапанавана сакратарыяту ТБМ імя Ф. Скарыны інфармаваць адпаведныя структуры ЮНЕСКА і Еўрапейскага Саюза аб культурнай і моўнай дыскрымінацыі карэннага насельніцтва Беларусі, што робіць праблематычным самаідэнтыфікацыю беларускаў як асобнага еўрапейскага народа — аднаго з заснавальнікаў ААН.

Фестывалі

# РАДАСЦІ Ў... СПАКОІ

Выпадкова або не, але сёлета стрыжнявой тэмай фестывалю "Маладзечанская сакавіца" зрабілася каханне. Стваральнае, разбуральнае, эгаістычнае, усеабдымнае, усюдыіснае, часцей за ўсё — недарэчнае ў сваіх выбітных праявах. Недарэчнае ў нашых абставінах, асяродку, атачэнні. А каханне проста працягнула ў фестываль тэму выбару. Нейкага адметнага, вялікага, адзінага...

"Маладзечанская сакавіца" за ўсе свае тры дні (15, 16, 17 сакавіка) не мела ніводнага адкрыта правальнага спектакля. Яна выгодна вылучыла сярод заслужаных ды абазнаных (тэатраў, выканаўцаў, твораў) Мінскі абласны драматычны тэатр. Тэатр гаспадароў фестывалю. І не адной спраўнай арганізаванасцю фестывальных плыняў. Спектакль у пастаноўцы мастацкага кіраўніка тэатра М. Мацкевіча "Чорная нявеста" паводле Жана Ануя, шчыра кажучы, не толькі не саступіў камусьці па сваіх мастацкіх вартасцях ды выкананні, але і даў узор высокай мастакоўскай адказнасці за справу сцэнічную. "Зоркам" ды прэтэндэнтам у "зоркі" маладзечанская актрыса Таццяна Кавалеўская (а яна яшчэ і фестывальнай вядучай была) ставала роўняю... Андрэй Бубашкін, запрошаны на ролю з Мінскага тэатра-студыі кінаакцёра, прадэманстраваў сябе ў самай нечаканай якасці — гераічнай...

Фестываль удаўся. Як ніводзін папярэдні! Трэба было б гэта прыняць спакойна, але ж і ў спакоі ёсць свае радасці...

Падрабязную справаздачу пра ўсе фестывальныя радасці "ЛіМ" прапануе вашай увазе ў сваіх бліжэйшых нумарах.

**Ж. Л.**

*На здымку: Яўген ІЎКОВІЧ (Фрэдэрык), Таццяна КАВАЛЕЎСКАЯ (Жанэта) і Андрэй Бубашкін (Люсьен) у спектаклі "Чорная нявеста".*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.*



Мітынгі

# КАНСТЫТУЦЫЮ АБАРОНІМ МЫ САМІ

Адзіным знакам таго, што Дзень Канстытуцыі — дзяржаўнае свята, былі развешаныя сям-там па горадзе чырвона-зялёныя сцягі, па якія ў нашай Канстытуцыі няма ніводнага слова. Дальбог, "Дзень воіна-інтэрнацыяналіста" альбо "Дзень беларускай міліцыі" адзначаліся больш урачыста і маштабна.

Не любіць, не шануе выканаўчая ўлада Канстытуцыі: калі б магла, пакінула б у ёй толькі адзін раздзел — "Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь", усе астатнія скасаваўшы. А ўлада заканадаўчая адчувае сябе няўпэўнена, на нейкую "згоду" спадзяецца (хоць маглі б і навучыцца на чужых памылках). У гэтых умовах адзіныя, хто могуць Канстытуцыю абараніць — людзі паспалітыя.

15 сакавіка ў Мінску прайшоў мітынг, арганізаваны шэрагам дэмакратычных партый. Пагроза скасавання дэмакратычных правоў, замацаваных Канстытуцыяй, і ўсталявання таталітарнага рэжыму прымусіла нядаўніх палітычных апанентаў шукаць паразумення. Будзем памятаць, што найперш мы — грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а ўжо потым сацыял-дэмакраты, кансерватары, нацыяналісты; а ўжо потым беларусы, яўрэі, палякі, рускія — вось галоўная думка, бадай, усіх прамоў на мітынгу. Выступоўцы выказвалі спадзяванне, што 24 сакавіка, каб адзначыць Дзень Волі, на пляц Незалежнасці прыйдуць усе ўдзельнікі гэтага мітынгу і прывядуць з сабою сяброў і знаёмых.

**П. В.**

# ПРАМОВЫ З ГУРБЫ

Рашэнне ніжняй палаты расійскага парламента — Дзярждумы — аб адмене Белавежскіх пагадненняў прагучала як заклік "Камуністы ўсіх краін, яднайцеся!" і ўскалыхнула ўсіх, хто хацеў бы вярнуць былую ўладу і старыя парадкі. А такіх, як вядома, у Беларусі шмат. Касцяк іх складаюць адстаўнікі ўсіх відаў войска і КДБ, якіх у нас атабарылася вялікае мноства. Вось чаму на ўсіх мітынгах камуністычнай накіраванасці чуваць добра пастаўленыя "афіцэрскія" галасы з інтанацыямі палітрукоў перад узяццем чарговай вышыні.

Мітынг 17 сакавіка каля Палаца спорту, прысвечаны пятай гадавіне з дня смерці Савецкага Саюза, не стаў выключэннем. Кожны з выступаючых на ім найперш прайшоўся па тых, хто "нагло и безрассудно" праігнараваў волю народа жыць у адзінай савецкай сям'і (маецца на ўвазе першы і апошні ўсесаюзны рэферэндум). Не прамінулі закляйміць "господ-демократов" і журналістаў, што ліжуць боты сусветнаму капіталізму. Павіншавалі прысутных з найвялікшай перамогай "истинных патриотов" вялікай Расіі і не забыліся сябе ўключыць у іх лік. Запэўнілі ў сваёй вернасці савецкай уладзе і сацыялізму. Было адзначана, што на шляху вяртання СССР (ці стварэння новага?) няма ворагаў. У якасці доказу прагучала наракание, што выступаць даводзіцца не з марմуровых прыступак, а са снегавой гурбы. Гэтых людзей распіралі пачуцці: радасці за перамогу (якая можа быць і зайчаснай), нянавісці да здраднікаў савецкага народа — "мерзавцы, которые пытались отнять у нас великую Родину". (Як любімую цацку ў бэйбуса-пераростка.) Прадстаўнік "Саюза моладзі Беларусі" падышоў да справы з агеньчыкам: прылюдна ўручыў 15-гадоваму школьніку камсамольскі білет.

Усе выступленні па змесце, пафасу і стылю настолькі падобныя, што няма патрэбы называць ні імён, ні прадстаўленых арганізацый. Толькі на адным спынюся асобна.

Народны артыст Савецкага Саюза М. Яроменка — ён жа старшыня канфедэрацыі творчых саюзаў, якую сам пад сябе і стварыў — перапічыў канкрэтныя крокі, зробленыя ў напрамку аб'яднання беларускага народа з рускім. Гэта падрыхтоўка міжнароднага кангрэса дзеячаў культуры і кінафестывалю "усіх славян" "Золотой витязь" (і тое, і другое з ласкі мясцовых уладаў адбудзецца неўзабаве ў Мінску), а таксама стварэнне міждзяржаўнага савета па культуры, які выйшаў з ініцыятывай, каб пытанне аб дэнансацыі Белавежскіх пагадненняў было разгледжана на сесіі парламента РБ. Пахваліўшы прэзідэнта Беларусі, ён зганьбіў "перевертышей" у асяроддзі творчай інтэлігенцыі, што здрадзілі сваім перакананням. (Заўважу ў дужках: змену перакананняў зразумець можна, але як быць з тымі, хто са старымі перакананнямі прыткнуўся да новага карыта?)

На заканчэнне, як "истинный интеллигент", М. Яроменка з пафасам паабяцаў: "Возмездие придет!"

У тым жа духу з гурбы выступіў сярод іншых і памочнік прэзідэнта С. Посахаў — не то як прыватная асоба, не то па даручэнні. Асобныя плакаты і лозунгі былі аздоблены партрэтамі А. Лукашэнкі. Было падкрэслена, што гэта адзіны прэзідэнт, які не выступіў супроць вяртання той самай вялікай Радзімы, якую ў некаторых сілком адабралі.

"Простояв пять лет на запасных путях, локомотив нашей истории тронулся", — сказаў пры адкрыцці мітынгу лідэр беларускіх камуністаў В. Чыкін. Выдатна сказана! Застаецца спадзявацца, што наш Вярхоўны Савет не возьме прыклад з гэтага саржавелага агрэгата.

**Г. К.**

Вечарыны

# ПАЭТЫ АДЫХОДЗЯЦЬ — ПАЭЗІЯ ЗАСТАЕЦЦА

Асабліва — калі гэта паэзія, пазначаная такім талентам, якім валодаў Анатоль Вялюгін. У тым, якая яна жыццядайная, як чуйна ўвабрала ў сябе павевы часу, як моцна прасякнута агульначалавечымі матывамі, яшчэ раз пераканаліся тыя, што 12 сакавіка сабраліся ў Доме літаратара на прэм'еру кнігі Анатоля Сцяпанавіча "Заклён на скрутны вір". Сёння яна ўспрымаецца ўжо і свайго роду запаветам — жыццёвым і творчым — слыннага Майстра. Тое, што ён апошнім часам пісаў, як падкрэслівалася ў час прэм'еры, з'явілася на хвалі сацыяльнай радасці, што ў рэшце рэшт беларускі народ акрыяў, прачнуўся ад сну нацыянальнага нігілізму, усвядомлена стаў на шлях нацыянальнага Адраджэння.

На жаль, сёння многае ўжо не так, як меркавалася і ў што верылася яшчэ год-другі назад. Чарговы раз мацнеюць ветры, гатовыя павярнуць назад ветразі беларускасці. Ды ўсё ж трэба заставацца аптымістамі. І жыць верай, якая не пакідала да апошніх дзён А. Вялюгіна. А ён у адным са сваіх твораў нездарма прызнаваўся: "астануся крывінкай у бел-чырвона-белым сцягу".

Вёў вечар-прэм'еру сакратар праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў А. Пісьмянкоў. Незабыўны воблік Анатоля Сцяпанавіча паўставаў з успамінаў яго сяброў, маладшых калег па пяры. Згадкамі падзяліліся народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль, С. Грахоўскі, С. Законнікаў, В. Зуёнак, М. Мятліцкі, К. Камейша, Л. Дранько-Майсюк, М. Скобла.

Творы Анатоля Сцяпанавіча чытаў народны артыст Беларусі П. Дубашынскі, а папулярную песню на яго верш "Бярозка" выканала Г. Радзько.

Прысутныя цёпла віталі ўдаву паэта Людмілу Мікалаеўну Вялюгіну, якой вядучы вечара паднёс букет ружаў.

Варункі

# ДОБРАЯ ВЕСТКА

**25 сакавіка чатырнаццаць гадоў таму адзначалі мы ў лесе пад Менскам. Ігліца пад хвоямі была вільготная, паветра п'янкое, у лагчынах яшчэ шэрхнуў снег. Мы паставілі між хвояў на грудку самаробны бел-чырвона-белы сцяг, выпілі пляшку гарэлкі, праспявалі "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Адчуванне таго, што ў нас была свая, хоць і далёкая незалежнасць, прыемна хвалявала. У гэты дзень у 1918 годзе беларусы насуперак варожаму свету заявілі: "Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай".**

**Недалёка ад нас трашчала голле. Няведама чаго ў гэты час бадзяўся па лесе нейкі чалавек. Бярозавік збіраць яшчэ рана.**

**Чатырнаццаць гадоў таму Беларусь была бэсэсэраўскай. Наперадзе не было ніякага прасвету. Родныя браты-славяне з усходу і захаду зрабілі ўсё, каб нашая незалежнасць захлынулася ў крыві і згніла у турмах. Дзякуй ім за гэта.**

**Там, у лесе, Сокалаў выдурняўся, пачынаючы спяваць стары беларускі гімн: "Адвеку мы спалі і нас разбудзілі", а потым дадаваў, здаецца, сваё: "Пад с... нам далі і спаць палажылі". Але ўсё роўна, нашая купка моладзі палка жадала паслужыць Беларусі незалежнай. Што там мы, калі за яе ў апошняе стагоддзе ўжо дзесяткі тысяч беларусаў аддалі свае жыцці.**

**Прайшоў час і, дзякуй Богу, гэта ўжо не толькі нашае свята.**

**Я заўсёды з унутраным задавальненнем і гонарам разглядаю агульнавядомы фотаздымак нашага першага ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзевяць беларускіх апосталаў. Вясёлым аптымізмам праменяць іхнія вочы, бялеюць каўнерыкі ў цывільных, паблісквоюць наваксаваныя боты ў вайскоўцаў. Я ўпэўнены, што даў бы ім Бог гэты саракатысячны беларускі корпус, які быў сфармаваны на Румынскім фронце і яны пабудавалі б нашую мару — заможную незалежную Беларусь! Але корпус да Беларусі не даехаў.**

**Палова з Апосталаў прыняла ад рук камуністаў пакутніцкую смерць, другая палова памерла ў выгнанні. Улада перайшла ў рукі прайдзісветаў. А тут, на фотаздымку, проста нейкі ідэал. Прыгожыя людзі з чыстымі і прыгожымі думкамі ды памкненнямі.**

**25 сакавіка — гэта не толькі беларускае дабравесце. У гэты дзень анёл Гаўрыіл абвясціў Марыі пра тое, што яна абраная Богам за маці для Ісуса Хрыста. Не толькі гісторыя Беларусі, але і ўся гісторыя чалавецтва дзеліцца гэтым днём на дзве часткі. Стары запавет сустракаецца тут з Новым, старая эра — з новай. Здзейснілася тое, чаго так доўга чакалі і пра што казалі прарокі ў Старым запавеце. Чалавек быў узнесены да вялікай годнасці, таму што Бог стаўся чалавекам. І тое, што было, здавалася б, недасягальным ідэалам, запаветнаю мараю, — адбылося!**

**Але доўгі час мала хто ведаў пра гэтую хвіліну і яшчэ менш верылі. 25 сакавіка — звеставанне, дабравесце.**

**Недарма на мове "обрусителей" гэта — "благая весть". Няхай жа сапраўды для іх яна будзе такой, а нам яна надасць веры і ўпэўненасці ў нашую светлую будучыню.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# ДАРОГА ДАДОМУ

Васіль МАКАРЭВІЧ

Калі зірнуць на карту раёна ці вобласці, адразу кідаецца ў вочы, што па сваім геаграфічным размяшчэнні мая родная вёсачка Купленка, бадай, найбольш за ўсе населеныя пункты аддалена ад райцэнтра, і знаходзіцца ў тым месцы, якое звычайна называюць мядзведжым кутком ці глушшу. І не дзіва! Тут, падыходзячы блізка адзін да аднаго, мяжуюць Крупскі, Бярэзінскі і Талачынскі раёны. Балоты, якія пачынаюцца непадалёк ад нашых лясоў, цягнуцца аж пад Асіповічы і Бабруйск. Маюць яны выхад і пад славутыя Усакінскія лясы, дзе падчас вайны месціліся партызанскія злучэнні і брыгады. Мяркуючы па ўсім гэтым, няцяжка прыйсці да вываду, што першапраходцы-прашчуры, якія закладвалі паселішча, здаецца, толькі і думалі, каб як мага глыбей зашыцца ў лясны гушчар і лясную непралазь, як падалей быць ад вялікіх і малых дарог. Ці не таму як да вайны, так і пасля вайны, раздаючыся ўшыркі, сяло пасоўвалася хатамі не ў бок мястэчка, а туды, дзе была пракаветная глуш, якая, здаецца, як магнітам, прыцягвала да сябе людзей і іх двор ышчы, і яны рады былі схавацца ад чужога вока са сваёй дробнай гаспадаркай.

Але, як вядома, гісторыя робіць час ад часу крутыя зігзагі і павароты. Разам з гэтым мяняецца жыццё не толькі краіны, але і гарадоў, сёл і вёсак. Пасля таго павароту, які адбыўся ў гады калектывізацыі, сяло, нібы марская вада ў час адліву, крыху адхлынула ад глушы, але не рынулася ў супрацьлеглы бок. Яно заставалася ў ранейшых межах, адбудоўваючыся і забудоўваючыся на былых дворышчах і хацішчах. Праўда, адзін толькі Піліп рызыкнуў паставіць хату-пяцісценку на водшыбе, каля самай рачулкі Мясрэды, паставіць іншыя забудовы, і, як бы адасобіўшыся ад вёскі, зажыць сваім жыццём. Ён абгарадзіў сваё дворышча высокім, як не ў рост чалавека, плотам, пасадзіў на ланцуг лютых ваўкадаваў. Але нядоўга прасядзеў за той агароджай. Як толькі ўзніклі калгасы і ў вёску завітаў раённы ўпаўнаважаны Мацкевіч, Піліпа адразу залічылі ў кулакі, і ўзяліся за яго так, што ён ледзь вылузаўся з цянётаў, якія хітра расставілі раённыя ўлады. Але ў вайну ўсё пайшло прахам: не стала Піліпа і ягонай Піліпіхі, па бярвенцу расцягнулі яго двор і пабудовы — сыны чамусьці не захацелі вярнуцца на бацькава селішча, палічылі за лепшае жыць удалечыні ад роднага кутка.

Пасля вайны хаты яшчэ больш цясней пачалі збівацца ў гурт, гаспадар стараўся ўціснуцца ў сярэдзіну, бо ці не большай паловы людзей не далічылася вёска за час ваеннага ліхалецця.

І толькі тады, калі пачалі падрастаць, убірацца ў сілу падлеткі, жаніцца і ставіць сабе хаты, вёска пацягнулася ў бок мястэчка. Ледзь не кожная сям'я старалася атайбавацца на гэтым канцы сяла і такім чынам як бы апынуцца бліжэй да сельсавета, школы-сямігодкі, клуба, усяго таго, што выгодна розніла мястэчка ад звычайнай вёскі. Зямля ад лесу была вольная і на ёй раслі ўсё новыя і новыя забудовы. Сталася так, што крайняя хата ледзь не ўпіралася вокнамі ў хмызняк. Але, як кажуць, для ўсяго ёсць свой час. І ў жыцці, як і ў акіяне, бываюць свае прылівы і адлівы.

Пасля таго, як калгаснікам сталі выдаваць пашпарты і людзі, у асноўным моладзь, маглі кінуць-рынуць свой ранейшы занятак, працу хлебароба ці дрывеска і падацца ў горад, вёска пачала цішэць, траціць свой першародны імпэт і задор, як тое дрэва, у якога нейкія злыя людзі падсеклі карэнне. Юнакі і дзяўчаты чакалі - не маглі дачакацца таго дня, калі скончаць дзесяцігодку, атрымаюць атэстат. Яны бачылі сваіх аднавяскоўцаў, якія прыязджалі у адведкі ці проста для таго, каб напакаваць сумкі бацькоўскімі прыпасамі, і зноў патануць і знікнуць у гарадскім вэрхале і тлуме. Былі яны няблага апрануты, гаварылі не так, як у вёсцы, а "культурна", курылі дарагія цыгарэты, хваліліся сваім жыццём, дастаткам. Асабліва дзівіла тое, што ў горадзе патрабавалася адно: адпрацаваў восем гадзін, а там рабі, што хочаш і як хочаш. У горадзе ўсё пад рукой: гарачая вада, газ, нават туалет! Божа, хіба гэта не рай для вясковага жыхара! І не ў сілах утрымацца ад такой спакусы, юнакі і дзяўчаты беглі ў горад, як зайцы ў капусту. Беглі бягом, каб ніколі не вярнуцца ў сяло. І сталася так, што Купленку як хто вымеў мятлой: прайдзі з канца ў канец — не знойдзеш і не сустрэнеш аніводнага юнака, аніводнай дзяўчыны! Засталіся адны старыя дзяды і бабулі, дажываючыя свой век...

Сталася неяк так, што з-за рознай тузаніны і валтузні, цэлы год я не быў у сваёй вёсцы. І калі нарэшце выбраўся і прайшоўся па ёй, дык не тое што здзівіўся — жахнуўся: Божа, што зрабілася з вёскай! Была яна тая і не тая! Куды ні глянь - паваленыя платы і частакол, розны хлам і хлуд, развернутыя печышчы, зарослыя і заглушаныя быллём і чартапалохам. Здавалася, па вёсцы толькі што пракаціўся шалёны акіянскі ўраган, растрыбушыў усё, што трапляла на яго шляху, не шкадуючы нічога і не зважаючы ні на што. Мала гэтага, дык, як тыя сухадрэвіны, што патачылі караеды і розная іншая шашаль, пападалі адзін за адным гаспадары, тыя трывушчыя мужчыны, на якіх трымалася гадамі вёска і калгасная гаспадарка. Апусцелі хаты і селішчы, няма каму замяніць бацькоў і дзядоў, няма каму прыглядзець за хатай, забудовамі. Вецер шастаў па дварах, скуголіў у закутках, перакідваў з месца на месца тое, што засталося ад былых гаспадароў. А што яны маглі пакінуць пасля сябе, апрача непатрэбных лахманоў? Ведалі, што век іх набліжаецца да канца і турбавацца, біцца, як рыба аб лёд, няма чаго. Для іх саміх пры жыцці мала і трэба было: прывязаў душу да цела нейкім кавалкам хлеба дый адбыў дзень на гэтым свеце. А што будзе на тым — чалавека не турбавала. Ды калі і набудзеш нешта, то на той свет не забярэш і не панясеш з сабой, якім бы хітрым ні быў пры жыцці.

А калі паміраюць, канаюць гаспадары і гаспадыні-ўдовы, паміраюць і канаюць разам з імі хаты і падворкі, ідзе на звод вёска. Сягоння мая вёска нагадвае старыя граблі, у якіх павыламлены зубы, у адным месцы праз адзін, у другім — праз два-тры. Глянеш неўспадзеў і вачам не верыцца: там, дзе нядаўна рыкала і вішчала, рохкала і бляяла, кукарэкала, сакатала дворышча, зеўрае непрывычны прагал, які падобны сабой на шчарбіну, прыкрую і нейкую непрыкаяную.

Як ветрам змяло хату і падворак Яшы Змітракова — дзецюка не вельмі ўвішнага і гаспадарлівага, але не сказаць, каб гультая. Рабіў ён усё няспешна, нібы хацеў давесці, што ў Бога дзён многа, і тое, што яму наканавана зрабіць і здзейсніць, ён зробіць, як і мае быць. Праўда, за ім прыглядала жонка, трымала яго ў руках. Яша не тое што пабойваўся яе, але не пярэчыў ёй, слухаўся і стараўся зрабіць так, як яна патрабавала. Яна адвучыла яго ад шмат якіх заганных прывычак, якія дзяцюк прыдбаў у дзяцінстве і юнацтве. Аднаго толькі не магла выкараніць: яго цягу да горкага пітва. Але хто ў наш час не прыкладваецца да гэтага зелля, дзе б там ні было, у горадзе ці сяле! Пітво гэта і звяло Яшу са свету. Яно і не дзіўна! Колькі людзей забірае на той свет гэты "змей"! Здзіўляе хіба толькі тое, што Яша прадугадаў свой канец. І яшчэ ўразіла адна акалічнасць, што сканаў ён на вяселлі, якое гуляў у суседняй вёсцы. Увесь дзень ён, як і трэба госцю, піў і еў, на другі — рабіў тое самае. Ніхто не здзівіўся з гэтага, як не дзівіўся і з таго, што Яша ніколькі не п'янеў, не клаўся спаць, як гэта ён рабіў раней. Здаецца, лютая самагонка аніколькі не брала яго загартаванае нутро. Праўда, здзівіў Яша адвячоркам, калі вясельнікі разыходзіліся спаць. Дзяцюк на ўсю хату заявіў, што ён сягоння возьме і памрэ. Але ніхто не звярнуў асаблівай увагі на яго пахвальбу і заяву. Ці мала што можа ўзбрысці ў галаву чалавеку, які другі дзень не выпускае з рукі шклянкі! Нават сусед па застоллі і той адпіхнуў яго ад сябе, палічыўшы, што ён вядзе пустую і непатрэбную лухту. А Яша, відаць, рашыў пераканаць, што слоў на вецер не кідае, узяў дый памёр ноччу. Хаця сваёй смерцю ён сапсаваў вяселле, але насуперак усяму яго дагулялі да канца. У той дзень, калі Яшу хавалі на могілках, яго жонка паплакала ды і перабралася ў новую хату, якую Яша пабудаваў на былым бацькоўскім котлішчы. Старая хатка-пяцісценка разваліласяа, цяпер на дворышчы буяюць быльнягі ды растуць вярбіны.

Як усё роўна віхурай падняло ў неба ды знесла хаты Надзеі Петраковай і старой бабы Піманіхі, што сталі насупраць адна адной цераз вуліцу. У двары Піманіхі раслі галіністыя і кроністыя яблыні з такімі смачнымі яблыкамі, што мы, малыя падшыванцы, не маглі ўтрымацца, каб не залезці ноччу ў садок крыклівай і злоснай жанчыны ды сарваць колькі чырванабокіх і салодкіх яблыкаў. Цяпер на месцы былога ўтульнага двара, дзе месцілася мноства ўсялякіх забудоў і прыбудовак, у якіх, здаецца, можна было заблудзіцца — рэзрух і бязладдзе, як папала, валяецца ўсялякае ламачча, ды ледзь ліпяць і трымаюцца пахіленыя плашкі дзябёлых частаколін, якія вычэсваў яшчэ барадаты Пімен, вясковы чмут і вядзьмак.

На былым хацішчы Надзі Петраковай — ні знаку, аніякай прыкметы ад былых смалістых сцен і ад печышча. Хату забраў і перавёз у горад зяць — на дачу, і наўрад ці ўспамінае, што ў ёй жыла калісьці яго цешча, якая насуперак усім вясковым правілам і здаровай логіцы стаяла гарой за яго, і на чым свет лаяла дачку, вучыла далікатнаму абыходжанню з мужам, бо ён быў ваенным чалавекам і, на думку жанчыны, адносіўся да катэгорыі прывілеяваных людзей.

Зеўрае былое котлішча глухой Алены, ціхай негаманкой жанчыны, што вечна рупілася ў хаце, то калупалася ў градах, маючы адзіную дачку Кацю-Кацюлю, цыбатую і рослую дзяўчыну, якую потым упадабаў Міця Кірылаў, сабраў яе падушкі, абавязковае прыданае вясковых выданніц, і перавёз у сваю хату, што засталася ад бацькі. Перабралася ў новае жытло да Міці і старая Алена, і хаця гнулася ў крук, але памагала і бульбу капаць, і дзяцей гадаваць, і ў печы паліць, калі Кацю клікалі ў краму, каб яна адпусціла пару селядцоў, а для дзецюкоў — бутэльку з белым фартушком. Алена дажыла да глыбокай старасці, нічога не чула на вуха, і ціха і неўпрыкмет пакінула гэты свет.

Агалеў і ўзлобак, які выкаціўся як не пасярод сяла, дзе месцілася пяцісценка Мархвы, невысокай, таўставатай, як кадушка, кабеты. З хлопцамі яе здарылася бяда, іх надоўга адлучылі ад хаты і маці. Гэта, відаць, страшэнна падзейнічала на маладзіцу, і з ёй зрабілася нешта такое, што, шыбуючы вуліцай па нейкай пільнай справе, яна нечакана спынялася, нейкі час стаяла, як укапаная, на адным месцы, а пасля пачынала адступаць назад, не зводзячы вачэй з адной кропкі, нібыта перад ёй быў тыгр ці драпежная рысь, гатовыя кожны міг і момант скокнуць, накінуцца на безабаронную і безабаронную жанчыну.

Не засталося ані знаку і ад селішча другой Мархвы, якую звалі Піманішынай Мархвай. Месцілася яна каля самай вуліцы, што вяла да ракі і на выган, куды кожную раніцу турылі парсюкоў, гналі кароў і коней, ездзілі на падводах і вазах у Лядзіну і Цінькаўку, у Радкава, якое ляжала за шляхам, дзе летам высыпала столькі ягад і грыбоў, што імі быў усланы ўвесь дол — здавалася, іх можна было грабсці граблямі і касіць касой. Каля Мархвінай хаты меўся калодзеж, з якога брала ваду ледзь не ўсё сяло, пакуль не здагадаліся выкапаць яшчэ некалькі студняў. Як я зайздросціў Мархвіным сынам, што ім не трэба было так далёка хадзіць па ваду, адрываць цяжкімі вёдрамі рукі, пялегаючы іх дамоў. Праўда, тых намаганняў і высілку вада каштавала — была яна празрыстая і надта ж смачная. Ад селішча Мархвы таксама не засталося ні кала, ні вугла. Ды і Мархвы няма ў сяле. Была яна асаблівай жанчынай. Аўдавеўшы, яна не хацела, а, можа, і не магла заставацца вернай свайму чалавеку-нябожчыку. Хаця гадоў мела па завязку, але лічыла сябе маладой. Слава пра яе ішла далёка. Да ўдаўцы прыбіваліся нейкія залётныя і заезджыя малайцы, напэўна, абяцаючы ёй залатыя горы і кленучыся, што без кабеты і яе ўдовінай ласкі не могуць пражыць і дня. А калі справа даходзіла да жаніцьбы, знікалі і з Мархвінага падворка, і з сяла ўвогуле. Мархва не перажывала, не турбавалася, і на пытанне вяскоўцаў, дзе яе нарачоны, адказвала адно і тое: "І гэты падаўся сабакам сена касіць!" Пад старасць знайшоўся для Мархвы надзейны чалавек, удавец з сяла па другі бок мястэчка, забраў яе з усімі вузламі і набыткамі, якія мела кабета, і сталася яна там тамашняй жыхаркай. Разы са два на год прыбягала ў Купленку, хвалілася, што жывецца ёй на новым месцы, дзякуй Богу, няблага, скардзіцца няма на што. Галоўнае, дзед яе не п'е, не таўчэ пад бокі кулакамі, як гэта робяць іншыя, словам, трапіла яна, як у рай, і не толькі не шкадуе, што пайшла за свайго дзеда, а радуецца свайму шчасцю і шанцунку. Не магла не заўважыць Мархва і тыя перамены, што адбыліся каля яе былога котлішча. Кідаўся ў вочы калодзеж, які, здавалася, перамясціўся, пасунуўся ўбок. Сапраўды, разваліўся і раскідаўся Мархвін двор і пашырэла вуліца, былы кладзеж як усё роўна апынуўся на праезджай частцы. За драўляны зруб пачалі чапляцца коламі падводы, а ноччу грузавікі збівалі і ссоўвалі з месца верхнія вянцы зруба. Пры гэтым у калодзеж сыпаўся пясок і ўсялякі бруд. Тыя, хто жыў побач, бачылі, што нешта трэба рабіць. Купілі бетонныя кругі ды ўзяліся капаць новы калодзеж, крыху наводдаль ад ранейшага, старога.

Божа, колькі знікла, прапала ў маёй вёсцы дворышчаў і хат. Апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў прынеслі для яе больш урону, чым вайна. Хаця карнікі і паклалі ў агульную яму каля сямідзесяці чалавек, хаты і падворкі не апусцелі, не агалелі зусім. Пасля вызвалення ў вёску вярнуліся мужчыны, хто з фронту, хто з лесу, з партызанскіх атрадаў. Удаўцы жаніліся, абзаваліся новымі сем'ямі, да ўдоў знаходзіліся прымакі, якія таксама саломіна да саломіны вілі гняздоўе, ладкавалі новае для сябе жыццё. Хаця навокал панавала беспрасветная галеча і нястача, кожны чапляўся за жыццё, ладзіў планы на будучае. Упрогшыся ў плуг, на сабе аралі агароды, што ўзяліся цвёрдым, як дубовая кара, дзёрнам. Садзілі бульбу, сеялі жыта, ячмень, лён і каноплі. Мужчыны тралявалі на трафейных конях з лесу смалістыя бёрны, ставілі зрубы, неўзабаве ўлазілі ў новыя пяцісценкі.

А колькі тады было весялосці, як рэзалі гармонікі і білі бубны! Здаецца, людзі ашалелі і ачмурэлі ад шчасця, што скончылася вайна, што яны асталіся жывымі, і ім нішто не пагражае: ні франтавыя бамбёжкі, ні карнікі, якія маглі схапіць і расстраляць дзеля таго, каб застрашыць іншых. У алешніку дзень і ноч дымеў самагонны апарат, у збанкі лілося, цадзілася пітво, якое магло зваліць з ног не толькі франтавіка ці дзябёлую вясковую маладзіцу, але і касалапага мядзведзя. Падлеткі прыносілі са шляху вінтоўкі, выцягвалі і даставалі з патайных месцаў наганы, і на падпітку адкрывалі такую страляніну, што, здавалася, цэлая стралковая дывізія ідзе ў наступленне ці абараняе свае рубяжы. Зброя была ў кожнай хаце. Пад ганкам ляжалі, як кормныя япрукі, крупнакаліберныя снарады, відно, спрацоўвала вясковае правіла і завядзёнка: прыйдзе час — у гаспадарцы і гэта спатрэбіцца! Нярэдка хлопцы-сарвігаловы браліся выплаўляць з іх тол, якім можна было глушыць рыбу. Грымелі выбухі, ад "мінёраў" знаходзілі абрыўкі ад штаноў ці ад кашулі. Але жыццё ішло, бурліла, вiравала, як рака ў паводку, што вырывалася праз застаўкі плаціны, якія не стрымлівалі яе напору. Як здзекліва, а той час нельга параўнаць з сягоннішнім!

Цяпер вунь што робіцца! Анямела, аціхла вёска, духу не паказвае. Пустуюць, стаяць, як непрыкаяныя, хаты, якія не рассыпалі ці не прадалі прыезджым купцам сыны і дочкі тых, хто пайшоў на той свет.

Маркоціцца, сумуе, тужыць ды глядзіць самотна на белы свет хата дзядзькі Болбаса, які пражыў такое цяжкае і труднае жыццё, што не давядзі, Божа, нікому такога! Да вайны сталася так, што ён адведаў слодычы і смаку Беламора-Балтыйскага канала, бо не паспеў у адведзены і вызначаны тэрмін выцягнуць з дзялянкі на рум бёрны, і да ўсяго паднаў каля калгаснай аўчарні ржавы цвік, які невядома як вылез з дошкі і валяўся пад нагамі. Каб дзяцюк не быў скварны на калгаснае багацце, а дзяржаўнае заданне рабіў і выконваў у вызначаны начальствам час, дзядзьку Болбаса вырашылі перавыхаваць, выбіць і вытравіць з яго душы перажыткі заганнай мінуўшчыны і ў рэшце рэшт выкаваць новага чалавека савецкай пароды тыпу і савецкай фармацыі. на той час дзеля гэткай пераакоўкі самай падыходзячай кузняй быў Беламора-Балтыйскі канал, куды гналі, везлі і турылі людзей з усяго Савецкага Саюза. Хопіць там месца і дзядзьку, сказалі суддзі, і адмералі былому вазаку роўным лікам пяць гадоў папраўча-працоўнага зняволення. Як ужо было сказана, ён і загрымеў на той канал. А там знайшліся такія кавалі і такое кавадла, на якім, быццам жалезную балванку, пляскалі чалавека, круцячы яго з боку на бок, падагрыючы на агні, а ўслед за гэтым апускаючы ў халодную ваду, гартуючы цела і душу так, што ад іх падчас не заставалася нічога. Але аказалася, што пры нарадженні дзядзька быў адліты з вогнестойкага матэрыялу. І загартаваўшыся пад буханнем цяжкіх малатоў, ён нейкім чынам кінуўся ў вочы начальству, як стахановец і перадавік. І пасля завяршэння будаўніцтва воднай артэрыі яму ўручылі нейкі вялізны ліст з гербавай пячаткай і подпісам вялікага начальніка, і ўзамен воўчага білета далі паперку, у якой пацвярджалася, што ён прайшоў перакоўку, выхаваўся і можа выпраўляцца дамоў і там паказваць прыклад працоўнага гераізму ў барацьбе за пабудову светлага заўтра.

Дзядзьку Болбаса пасадзілі на цягнік і ён паспяшаўся дамоў, каб выцягваць той лес,

(Працяг на стар. 12)

## У “БІБЛІЯТЭЦЫ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ”

**пабачыла свет кніга Уладзіміра Карызны “Азёры дабрыні”. Гэтае выданне, якое выпускае “Мастацкая літаратура”, як вядома, ставіць за мэту знаёмства з лепшымі творамі нацыянальных паэтаў. У “Бібліятэцы...” выйшлі ўжо не адзін дзесятак зборнікаў. І вось у шэрагу іх — і зборнік нашага вядомага паэта-песенніка, аўтара кніг “Край мой сінявокі”, “Жураўліны досвітак”, “Святло ліўня”, “Цеплыня” і іншых.**

## СВЯТА ПЕРШАГА ТОМА...

**Як мы паведамлялі ўжо, у выдавецтве “Мастацкая літаратура” нядаўна выйшаў першы том Поўнага збору твораў народнага песняра Янкі Купалы. Безумоўна, гэта значная падзея ў культурным жыцці дзяржавы. Адно са сведчанняў гэтага — прэзентацыя тома, што прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.**

**Перад прысутнымі выступілі дырэктар выдавецтва “Мастацкая літаратура” С. Андраюк, загадчык рэдакцыі, народны паэт Беларусі Р. Барадулін, намеснік дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі, аўтар прадмовы да тома У. Гніламёдаў, М. Мушынскі, в. а. намесніка міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь С. Нічыпаровіч.**

**Адзначалася, што падобныя выданні сведчаць аб тым, што, нягледзячы на цяжкасці, у нашай краіне прымаюцца захады для таго, каб спадчына класікаў нацыянальнай літаратуры знаходзіла дарогу да чытача. Як вядома, Поўны збор твораў ужо ажыццёўлены. Гэта — трохтомнік Максіма Багдановіча, што выпушчаны выдавецтвам “Навука і тэхніка”.**

## І ПАЮБІЛЕІЛІ, І ПАРЭКАМЕНДАВАЛІ

**У Наваполацкай цэнтралізаванай бібліятэцы адбылася вечарына, прысвечаная 50-годдзю паэткі Марыі Баравік. Юбілярку віталі літаратары, члены Полацка-Глыбоцкай філіі Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў Н. Гальпяровіч, А. Жыгуноў, Г. Кірылаў, загадчыца Наваполацкага аддзела культуры Л. Касьянава, загадчыца бібліятэкі В. Кішчанка, члены літаратурнага аб'яднання “Наддзвінне” Ю. Касцюк, Л. Мяхедка і іншыя. Паэтка адказвала на пытанні, чытала новыя вершы. У гонар яе гучалі песні на яе ж словы і прысвечаныя ёй. З прыемнасцю ўспрынялі прысутныя вестку аб узнагароджанні М. Баравік Ганаровай граматай упраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама.**

**Там жа, у Наваполацку, і тым жа днём адбылося выязное пасяджэнне абласнога аддзялення СБП, якое правёў яго сакратар А. Салтук. На пасяджэнні рэкамендавана для ўступлення ў творчы саюз група літаратараў Віцебшчыны, сярод якіх Ф. Ляшонак (Глыбокае), В. Русілка (Віцебск), А. Нафрановіч (Паставы), І. Дарафейчук (Полацк), Г. Варатынская (Ушачы).**

**І.ЗІМІН**

## “ПРАЛЕСКА”, № 2

**“Ці даўно вы расказвалі дзіцяці казку? Скарыстайце для гэтага загадкавы зімовы вечар — яшчэ зусім не позна. А чытаць усё ж няхай вучаць спецыялісты...” — так заканчвае свой чарговы “ліст рэдактара” галоўны рэдактар “Пралескі” А. Сачанка. А называецца артыкул “Літары ў пялюшках”.**

**І. Семяненка прапануе сцэнарый свята “Гукайце, дзеці, масленіцу!”. З. Кустава працягвае “Азбукоўнік”, і гэтым разам у цэнтры ўвагі літара “ю”. А. Марціновіч (“Зімародак — птушка рэдкая”) разважае пра творчасць У. Ляўданскага. З. Кустава, Т. Фаменка і В. Юбко выступаюць з артыкулам “З вуснай народнай творчасці беларусаў”, у якім падаюцца асобныя замовы. Надрукаваны казка А. Каваленкі “Пра бабра і сама”, вершы А. Дзеружынскага, шэраг іншых матэрыялаў.**



Уладзімір ПАЎЛАЎ



# З КНІГІ “ПОЗНІЯ ГАДЫ”

## РАСКАЗ ВЕТЭРАНА

...А мне не было і шаснаццаці год,
Як я з партызанаў патрапіў на фронт.

Сям'ю расстралялі й яшчэ паўсяла,
Таму мяне помста святая вяла.

Не можа нікому, як мне, так балець, —
Упэўнены быў і думаў пра смерць.

У логава ўжо адпаўзала змяя.
Дык хто там прыкончыць яе, як не я?

І сам ваенком не адпрэчваў мяне,
Бо многа такіх было трэба вайне.

І вось перамога. І можна дамоў.
Ды служыць мой год аж яшчэ сем гадоў.

Вяртаўся ўсё ж, вёз сярод драбязы
Найбольш аблігацый дзяржаўных пазык.

Дзяржава ж не бочка без дна, не дзяжа.
І цэны з чаго ёй штогоду зніжаць?!

Мы змалку адзіны — радня і сям'я.
Дык хто паспрыяе ёй так, як не я?

...У вёсцы, казаў я, нікога ў мяне.
Таму апынуўся я на цаліне.

Краіна без хлеба сядзела мая.
Дык хто яго ўробіць найперш, як не я?

Пшаніцы насыпалі — з небам бурты!
Мароз жа тут ранні і клімат круты.

Яна пачарнела, гарэла нібы.
З начальства ж не браўся ніхто за чубы.

Стаялі хаўруснікі дружна, гарой.
Глядзіш, і адзін, і другі ўжо — Герой.

Няма тут парадку. Паеду дамоў.
Радзінная сцежка. Нядальняя кроў.

А дома гавораць: “Заробак паўсюль,
Каб лепш уявіць,
жмені ў прыгаршчы стуль”.

Ды жыць — не тужыць. Завялася сям'я.
Хто ж краю народзіць дзяцей, як не я?

Аж тут кукуруза. Пазыкам каюк.
Як маеш кароўку, то лішні вяпрук.

Жывёле ў карыта кладуць мужыкі, —
Во шкоднікі, — хлеб!
Дык прадайце мукі!

Праз “неяк” дзяцей удалося падняць,
Тры тысячы грошай з жанчынай сабраць.

Для ўсіх непазбежны на выпадак той.
Хапіла б на помнік і мне каб, і ёй.

Цяпер жа на іх — аж па скуры мароз! —
Не купіш і пачка цвілых папярос.

І зноў каламажка загрузла мая.
І зноў самы крайні. А хто ж, як не я?!

Майго спажылі і асла, і вала.
То дайце ж мне месца хоць з краю стала!
*15.10.1994*

●

Стараліся — не даканалі.
Відаць, яго час не прыйшоў.
Мой бацька на Волгаканале
Мураш быў сярод мурашоў.

А год імчаў трыццаць шалёны —
Ляцелі кастрыца з луской,
І сноп маёй мацеры лёну
На выстаўку трапіў не з ёй.

Ці знойдзеце дзе вы арліцу
У свеце ва ўсім хоць адну,
Як мама?
Дзяцей чацвярыцу
Усіх захавала ў вайну.

Сябе падвясельвала песняю.
І хоць пражыла з мазаля,
Не мела ні людскае пенсіі,
Ні ордэна, ні медаля.

Хапала сялянскай трываласці,
Запрогшыся ў плуга, араць.
На Мар'ях падобных трымалася
Дзяржава, сям'я і мараль.

Са свету нам кожнаму раз сысці
І з роднаю зліцца зямлёй.
Прасіла пра беды і радасці
Расказваць, не тоячы, ёй.

Прыходжу і з крыўдай і з праўдаю.
Кажу, а не жалюся я:
Жыву, як і ты, мама, праведна —
Ні ордэна, ні медаля.
*8.9.1995*

## АШУКАНЕЦ

Ён абяцаў амаль што рай,
Замежны бляск і глянец.
Сабе выгадваючы шанец,
Ён абяцаў амаль што рай.

І златавуст і краснабай.
Папросту ж — ашуканец.
Ён абяцаў амаль што рай,
Замежны бляск і глянец.
*19.9.1995*

## ЧОРНАЯ ХУСТКА

Купі сабе чорную хустку, Тамара.
Ніколі яна не была для акрасы.
Відаць, не на дзень памяняліся часы.
Купі сабе чорную хустку, Тамара.

Яшчэ гадзяне мае словы трывае.
А твар перакошаны ўжо да грымасы.
Купі сабе чорную хустку, Тамара.
Ніколі яна не была для акрасы.
*13.9.1995*

## ДЗЯРЖАЎНАЕ

Навокал казнакрады.
Навокал падхалімы.
Усё ім аддалі мы.
Навокал казнакрады.

Ну, а што там уляды,
Чаму да іх цярпімы?
Мо тыя ж казнакрады?
Мо тыя ж падхалімы?
*19.9.1995*

●

*Грушица в саду цветет,*
*Нашей встречи ждет.*

Груша буйна зацвіла
У вясновым садзе.
А дзяўчыне не міла —
Смутак у паглядзе.

Што ж ты зноўку не прыйшоў,
Каго я кахаю?
Можа, лепшую знайшоў? —
Грушу абламаю.

Ад пякучае слязы
Не баліць нікому.
І адны мае сляды
Павялі дадому.

Што ж мне мацеры сказаць? —
Стрэне ля парога.
Бо мяне яна аддаць
Хоча за другога.

Лепш застацца парашу
Дзеўкай-векавухай...
Песня-жальба рве душу.
Як не чуў, — паслухай.

Мудрых зораў не злічу.
Хвала гордай высі.
Галавой к майму пляччу,
Пеўшы, прыхініся.
*8.9.1995*

●

Рабіны хораша ірдзелі,
І гронкі гнула да зямлі.
Яны абняўшыся сядзелі,
Яны так злагадна гулі,

Нібы ў кашы голуб з галубкай,
Што па-над ваконнем вісеў.
Іх сэрцы біліся так гулка,
Што здэцца чулі іх усе:

З канём спазнелы падарожны,
Сабака, што ў двары люцеў,
І таварняк, мабыць, парожні,
Што на паўстанак праляцеў.

У гэту ноч яшчэ ці мала
Было баяцца ім чаго.
Галоўны ж пострах іх быў мама —
Ім па пятнаццаць усяго.
*15.9.1995*

## НЕ СУРОЧ

Вільготная майская ноч,
І волка плячам ад чаромхі.
Каханых не спудзі ні трохі,
Вільготная майская ноч.

Паглядам благім не суроч
Іх свет і пяшчотны і крохкі,
Вільготная майская ноч,
Дзе волка плячам ад чаромхі.
*15.9.1995*

## ПАГЛЯД

А ты адводзіш свой пагляд,
Засцігнуты знянацку.
Нібыта ў дзень юнацкі,
А ты адводзіш свой пагляд.

Мы ператворым звад у лад
І кожны дзень у цацку.
А ты адводзіш свой пагляд,
Засцігнуты знянацку.
*25.9.1995*

## НЯЗДАТНЫ

Маю радасць, мае песні
Разам з мілаю павезлі.
Разам з мілаю павезлі
Маю радасць, мае песні.
А па падвоканню цвеліцца.
Свішча, гуляе мяцеліца.
Свішча, гуляе мяцеліца
І па падвоканню цвеліцца.
Маё поле не прыбрана.
Ранняй зімкай прыхавана.
Ранняй зімкай прыхавана
Маё поле непрыбрана.
А па даваконню цвеліцца,
Свішча, гуляе мяцеліца.
Свішча, гуляе мяцеліца
І па падвоканню цвеліцца.
Мае сыны, мае дочкі
Не гуляюць у садочку.
Не гуляюць у садочку
Мае сыны, мае дочкі.
А па падвоканню цвеліцца,
Свішча, гуляе мяцеліца.
Свішча, гуляе мяцеліца
І па падвоканню цвеліцца.
Што ж ты, мамка, нарабіла,
Што няздатнага ўрадзіла?
Ты няздатнага ўрадзіла.
Што ж ты, мамка, нарабіла?
А па падвоканню цвеліцца,
Свішча, гуляе мяцеліца.
Свішча, гуляе мяцеліца
І па падвоканню цвеліцца.
*25.9.1995*

## МІРАЖЫ

Памкненне высокае волі,
Стамлёнай душы памажы.
Кірунак да мэты ўкажы,
Памкненне высокае волі.

Мы з рабства не выйдзем ніколі,
Як звабяць ізноў міражы.
Памкненне высокае волі,
Стамлёнай душы памажы.
*16.9.1995*

## ДЗЕ?

Дзе тая ахвярная кроў,
Што вымыла родныя зоры?
Прыспешнікі зноў у фаворы.
Дзе тая ахвярная кроў?

Мне зноў трэба пасвіць кароў,
Высільвацца ў людзі да зморы.
Дзе тая ахвярная кроў,
Што вымыла родныя зоры?
*25.9.1995*

Проза

Георгій МАРЧУК

# НОВЫЯ НАВЕЛЫ



## АХ, МОРА, МОРА

Ужо... яе сяброўка-аднакласніца, якая "са скандалам" выйшла замуж за святара, кінула яго там, у германскім горадзе, дзе ён меў праваслаўны прыход, і пайшла жыць да саракагадовага немца-удаўца. Хвалілася, што жыве вельмі заможна. Другая сяброўка — адзіны страхавы агент на ўсё мястэчка, — звольнілася і занялася дробным бізнесам, возячы ў Польшчу, з якой межаваў іх гарадок, харч ды прамысловыя тавары і вяртаючыся адтуль з доларамі. Яна ж, Марына, маючы дыплом медсястры і адпрацаваўшы пасля медвучылішча восем гадоў, у давер да свайго кіраўніцтва не ўцерлася, але ж вопыт, пашану, такія-сякія сувязі займела. Галоўны ўрач, праўда, усё толькі абяцаў, што выпусціць і яе разам з двума стаматолагамі на падпольную халтуру ў польскую перыферыю. Бралі фіктыўныя бюлетэні, ехалі за мяжу скрытна, без агалоскі, а вярталіся натомленыя, як магільшчыкі ў спякотны дзень, але задаволеныя доларавым заробкам. Ужо сам галоўны ўрач разам з бухгалтарам і галоўнай медсястрою, завышаючы колькасць хворых і крадучы дэфіцытныя лекі, везлі іх праз падстаўных асоб на рынкі Гродна і Беластока. Небагата людзей ведала аб гэтым. Яна ведала таму, што маці хлопца, з якім доўга гуляла, спіўся, сеў за крадзеж, працавала бухгалтарам. Здаралася, і Марына ставіла свой подпіс пад фіктыўнымі дакументамі.

Ужо... яе сусед-аднагодак, кінуўшы працу ў клубе і нібыта нават выкупіўшы палову старога будынка камбіната бытавых паслуг, адкрыў філіял сталічнага камерцыйнага банка і сам гэты самы філіял і ўзначаліў, агітуючы і вярбуючы мясцовых кліентаў браць пад залог і працэнты грошы на гандаль. Дзяўчаты з аддзялення ашчаднай касы, як і раённыя фінансісты, крывіліся й зайздросцілі наваспечанаму банкіру.

Мажная, высокая, з мужчынскімі рукамі, Марына жыла ў прыватным аднапавярховым драўляным дамку, які ўпраўленне чыгункі калісь перапісала на імя яе бацькі. Ён сумленна і аддана служыў гадоў сорак на чыгунцы, на якой яго і напаткала трагічная смерць. У апошнія тры гады харчаваліся выключна на матчыну пенсію. Свае грошы Марына адкладвала на адзежу. Раней, з часоў Саюза рэспублік, яна таксама адкладвала частку заробку і ехала на адпачынак у Алушту, да Чорнага мора, якое любіла да вар'яцтва. Здаралася, што ўсе грошы прывозіла дахаты, калі шчасціла і сустракала на пляжы "дойнага бычка" з каўказскім акцэнтам, альбо ў сярэднеазіяцкай цюбецейцы, альбо з мурманскай прапіскай.

Ах, як яе цягнула да мора! Асабліва цяпер, калі былая рэальнасць пераходзіла ў няздзейсныя мары. Ад злосці на абставіны, ад зайздрасці, адчаю яна ўжо некалькі разоў штовечар плакала наўзрыд, не саромеючыся маці, якая толькі разводзіла ад бездапаможнасці рукамі: "Ну што ж рабіць, дачушка? Большасць робіцца беднымі... Такая наша доля".

— Я не хачу, не хачу! — крычала яна, абвінавачваючы падсвядома ў сваім няшчасці і маці.

Ужо... бухгалтар і галоўная медсястра купілі ў Скідзелі па яшчэ адной машыне, а жонка галоўнага ўрача ўжо кожны дзень купляе самую дарагую каўбасу і курэй.

Ужо... жонка начальніка лясгаса, які разам з кампаньёнамі ўзяў у арэнду ці прыватызаваў пілараму і які ўпотай начамі бязлюднымі дарогамі вывозіў у Літву лес, двойчы ездзіла на экскурсію ў Турцыю, а цяпер выбіралася на адпачынак у Балгарыю, заплаціўшы за пуцёўку аж чатырыста долараў.

Марыне пасля такіх навін не хацелася вяртацца дадому, каб зноў чуць суцяшальны матчын стогн: "Што ж рабіць, дзіцятка, трэба цярпець. Не мы адны такія. Бог дасць, усё зменіцца да лепшага".

Праўда, аднойчы на злы выкрык дачкі маці ціха вымавіла:

— То вазьмі ўжо мой пярсцёнак, прадай ды паедзь да свайго мора. Я тут адна як-небудзь пабуду.

Дачка адмовілася. Яшчэ было трохі сорамна рабаваць надта ж хваравітую і зблажэлую не да часу маці.

Ужо... дваццацігадовы касавокі дылда, ростам пад два метры, сын зубнога тэхніка, набыўшы мініяцюрны калькулятар, апанаваў прыступкі адзінага кінатэатра і распачаў адкрыта скупляць долары і расійскія рублі. У яго ж можна было і набыць валюту. Ужо... казалі, сам начальнік міліцыі купляў у мянялы для сваёй дачкі гэтыя самыя долары, якія не давалі спакойна заснуць Марыне.

— Не разумею, забі мяне, а не разумею: чаго ты бядуеш? Ходзіш пры такіх дэфіцытных леках! Каму цяпер трэба твая правільнасць? — як бы саромеючы, павучала медсястру вынаходлівая сяброўка — былы страхавы агент. — Спакойна можна з тваёй прафесіяй скалаціць капітал. Альбо: ідзеш на ўколы дамоў да хворага — хоп долар за адзін укол. Бяры мёртваю хваткаю. Нікуды не дзенуцца, будуць плаціць.

Марына замаркоцілася, замкнулася ў сабе, хадзіла на працу з вялікай неахвотаю, не адказвала тактоўна, а бурчэла на хворых, ненавідзячы іх. Насуплена глядзела з-пад ілба і на дактароў. Яе даўгаваты нос як бы пашыраўся, даючы выйсце злосці. Тэлевізар не глядзела — ён раздражняў яе рэкламаю для багатых.

Ужо... мясцовае кіраўніцтва гразілася наогул закрыць іх стацыянар, а ўсіх хворых перавесці ў раённую бальніцу. Нішто ў радасць не было. Ужо.. іх кармілі раз на дзень. Старыя, знямоглыя, з сумнымі вачыма хворыя дзякавалі шэф-повару, не падазраючы, што часта буракі, пятрушку, цыбулю, укроп, а часам і алей чулая жанчына прыносіла з дому.

Ужо... казалі, што да зімы курс долара ўзрасце ўдвая. І яна рызыкнула. Падштурхнула навіна, што ў Бельгіі ці Аўстрыі (Марына гэтай перадачы не бачыла ў інфармацыйнай панараме) яе калежанка — медсястра ў шпіталі зарабляла сабе грошы, дапамагаючы хворым хутчэй памерці. Проста кажучы, прыспешваючы смерць, забівала іх. Першым, над кім Марына правяла свой эксперымент, быў вясковы конюх, якому руплівая жонка штодня падвозіла харчы і які і без дэфіцытных лекаў ішоў на папраўку.

Старой адзінокай жанчыне, Марына ведала, што ў хворай няма абароны, ужо з большай смеласцю калола ўколы з дыстыляванай вадой, замест лекаў. Справа пайшла, паехала. Лекі гардокс, кантрыкал, гемадэз, но-шпа, баралгін, карсіл Марына амаль штовечар несла на кватэру сяброўцы-гандлярцы. Выручаныя долары ад маці хавала. Ах, як цягне мора, як яна адчувае яго пяшчоту. Калі нават не атрымаецца ў гэты сезон, дык на наступны паедзе абавязкова. Будуць і ў яе грошы, будуць... ужо ёсць.

## ЛАНДЫШЫ

Ах, як ён любіў пад прыемную мелодыю песні пра веснавыя кветкі танцаваць з ёю на школьных вечарах! Як любіў! Божа, даўно гэта было і так нядаўна. Здавалася, ніколі не будзе старэць, а кожны год будзе лепшы за мінулы. Калі астатнія тупалі на месцы, дык яны, — Віталь і Ларыса, здатныя да танцаў, лёталі з усмешкай па дашчанай падлозе старэнькага клуба, паспяваючы абтанцаваць залу тры, чатыры разы, праціскваючыся праз натоўп і шукаючы большай прасторы. Ах, як замірала сэрца ад першых пацалункаў пад ліпаю пасля танцаў. Ён ніколі не спяшаўся дахаты: чакаў, пакуль яна адчыне акно ў сваім пакойчыку. Тады ён павольна праходзіў міма штыкетніка, насвістваючы да салодкага болю душы знаёмую мелодыю "ландыши, ландыши, светлого мая привет". І нарадзіцца ёй пашчасціла дваццаць другога мая, час, калі ландышы цвілі ў іхнім лесе за мястэчкам паўсюдна. У хлопцаў тады не было манеры дарыць кветкі дзяўчатам у дні іх нараджэння. Ён адважыўся першы: у класе сёмым ці восьмым прынёс ёй раніцай букецік ландышаў. У першыя гады клаў іх спадцішка на падаконнік, а сам уцякаў, хаваўся за ліпу. У дзесятым прынёс у хату. У інстытуце (а паступілі разам у педагагічны), здаралася, пазычаў грошы, бег да вакзала, купляў кветкі і паспяваў вярнуцца ў інтэрнат, клаў іх ёй на падушку. Сяброўкі па інтэрнаце ёй вельмі зайздросцілі. Яны і распісаліся ў ЗАГСе дваццаць другога мая. Фота, на якім яна ў падвянечнай сукенцы (узялі напракат), а ён у чорным касцюме (грошы на які зарабіў, калі ездзіў з будаўнічым атрадам на Поўнач), вісела на відным месцы ў іх трохпакаёвай кватэры ў зале, дзе збіраліся святкаваць сямейныя і дзяржаўныя святы. Тады яшчэ хапала на ўсё і грошай, і сябры не забывалі, наадварот, лічылі за гонар пабываць у іх, бо Віталь, які стаў Віталем Рыгоравічам, хутка зрабіў зайздросную кар'еру. На гэтым фота яна трымае не букет руж, як усе, а букецік ландышаў. Трэба сказаць, что ён — чалавек сціплы, сімпатычны знешне, з прыстойнымі, інтэлігентнымі манерамі, ніколі і нідзе не дарыў іншым жанчынам ландышаў. Усё здаралася. Ён працаваў у школе, у педінстытуце, вучыўся ў Вышэйшай партыйнай школе, у ёй жа застаўся працаваць, абараніўшы кандыдацкую дысертацыю. Ён заўсёды памятаў пра іх талісман кахання і ніколі не здраджваў жонцы нават у гэтым. Вычытаў у календары "Дамскі свет" за 1910 год, што ў ландышаў сімвалічны знак — вяртанне шчасця.

Прывабная жонка нарадзіла яму дзвюх дачок. Старэйшая працавала ў нацыянальнай бібліятэцы, а малодшая вучылася ў апошнім класе сярэдняй школы. Ён іх вельмі любіў, можа, за тое, што так былі падобны на яго. Невысокага росту, такія ж кірпатыя, канапатыя, з добрымі блакітнымі вачыма і манерай у час усмешкі апускаць трохі галаву. Мяккасардэчны, рана злыселы, незлабівы Віталь зрэдку злаваўся на дачок, хоць любіў іх часам да нудоты павучаць, як трэба жыць, як аддана служыць грамадству. Не крыўдаваў, калі яны абзывалі яго "старамодным", альбо "кансерватарам". Адно не мог ім дараваць, чаму яны абыякавы да іх любімай песні юнацтва "Ландышы". Чаму, чаму песня іх не хвалюе так, як яго і маці? Крыўдзіцца, аднак, доўга было не ў яго натуры. І вось нечакана для сябе, сям'і, для сваякоў у мястэчку і суседзяў ён на сарок сёмым годзе жыцця не па сваёй волі мусіў рэзка памяняць, здавалася, стабільны да пенсіі свой лад жыцця.

Пад націскам нацыяналістычных, антыкамуністычных, дэмакратычных, сацыял-дэмакратычных і чортведама яшчэ якіх сіл хуценька капітулявала камуністычная партыя і гэтак жа хуценька ў п'яную снежаньскую ноч пад новыя гімны і сцягі, пад прагу як мага хутчэй разбагацець на беднаце суседа раскідаўся Саюз Савецкіх Рэспублік. Просты люд адразу і не ўцяміў, што ён з гэтага ўсяго прыдбаў, а што згубіў. Ляцець стрымгалоў у капіталізм Віталь Шумскі не мог, бо не паспеў назапасіць "изначального капитала", а каб кінуцца адразу ў гандаль — на тое не быў прыдатны. Ён як большасць чакаў паляпшэння становішча, не ведаючы, ад каго гэтае паляпшэнне мусіць ісці. Праўда, больш спрытныя ягоныя былыя таварышы па партыі, добра засвоіўшы лозунг усіх рэвалюцый — "гэй, да банкаў, да харчоў, да казны", адразу ўцямілі, што больш не ідэя будзе кіраваць грамадствам, ні Бог, ні ўлада, а грошы. Нетаропкі, не здатны хутка перабудавацца, "кансерватар" Віталь Рыгоравіч апынуўся ў рангу ці не першага беспрацоўнага ў сталіцы. І стаў ён жыць у нервовым чаканні свайго будучага лёсу. Тыя, што аселі ў гарвыканкоме, у адміністрацыі прэзідэнта, усё абяцалі знайсці і для яго грашовую пасаду, каб каля долараў. Ён амаль не выходзіў з кватэры, так быў псіхалагічна выбіты адчуваннем сваёй непатрэбнасці. Яшчэ было сорамна перад суседзямі і школьнымі сябрамі. Жонка пачала неўпрыкмет скубсці: "Шукай работу, бо хутка і на хлеб не будзе".

Раздражнёны, ён пачаў тэлефанаваць былым калегам, якія аселі ў банках, у камерцыйных структурах ды ў сумесных прадпрыемствах закрытага тыпу. Асцярожны Віталь Рыгоравіч пасля сенсацыйных забойстваў высокіх чыноўнікаў Арцымені ў Гродне і Лісінчука ў сталіцы да знаёмых у банкі не званіў. Некаторыя адразу, спасылаючыся на агульныя цяжкасці, давалі яму адлуп, альбо пасылалі адзін да аднаго. З кожным днём надзеі раставалі, як "Снікерс" у роце. Віталь Рыгоравіч чужэў, пачаў азлабляцца. Адно хіба яшчэ цешыла: успаміны пра старую ліпу, якую, відаць, у гэтае ліхалецце зрэзалі ды вывезлі на продаж у Польшчу, пра танцы у клубе і пяшчотную простую песню "Ландышы". Ад гэтых успамінаў яшчэ хацелася жыць.

Пашанцавала. Аднакласнік, з якім і сябраваў мала, запрасіў яго на працу ў Міністэрства ўнутраных спраў. Трэба было Віталю Рыгоравічу асвойваць прафесію псіхолага і ездзіць у асноўным у жаночыя калектывы з спецыфічнай лекцыяй "Самаабарона жанчыны ў выпадку нападзення насільніка альбо рабаўніка". Што не зробіць чалавек у адчаі і жаху перад будучым! Можа, Віталь Рыгоравіч і дачакаўся б лепшай долі, але ж... пайшлі чуткі, што ў суседнім пад'ездзе семнаццацігадовы хлопец вярбуе дзяўчат для работы ў тайных бардэлях Турцыі, што ў доме насупраць, ратуючыся ад голаду, сям'я трымала ў кватэры пяць курэй нясушак і пеўня. Чытаў свае лекцыі, трэба адзначыць, добрасумленна, усхвалявана, вельмі спачуваючы аўдыторыі, якая з трывогай і падзякай слухала яго.

"Никогда не заходите в лифт с незнакомым мужчиной... Если вы заметили, что вас преследует неизвестный, не спешите убегать. Постарайтесь усыпить его бдительность неожиданным вопросам к нему, сами же нащупайте в кармане газовый баллончик и будьте готовы воспользоваться им. Лучше ключи и деньги, возвращаясь поздно с работы, не носить в сумочке. Если вам позволяет семейный бюджет, занимайтесь на курсах самообороны нашего министерства, где профессионалы в короткий срок обучат вас приёмам самбо..."

Паўтараючы амаль штовечар гэтыя і падобныя на іх рэкамендацыі і гледзячы на разгубленыя жаночыя твары, Віталь Рыгоравіч, адчуваючы сваю бездапаможнасць, спачуваў ім, часам думаючы, што сталася з людзьмі? Абсурд нейкі. Адны вышукваюць сродкі насілля і забойства, а другія — сродкі абароны. Узяць гэтых жанчын: распрануць, няхай прыгожыя ідуць па беразе ракі, па лузе. Кахайце іх, кахайце. Гэта ж так хораша насіць жанчыну на руках, песціць яе, галубіць. Усё прахам, усё...

"Можа, і напраўду чалавек не здольны жыць вольна і шчасліва ў цывілізаваным грамадстве, ці па сваёй жывёльнай прыродзе ён ніколі і нідзе

*(Працяг на стар. 12)*

## КАЛЯНДАР МУЗЫЧНЫ

**Пачатак года аздобіў наш музычны каляндар нізкай юбілеяў. Найбольш "гучныя" адзначыў Акадэмічны тэатр оперы і балета: тут прайшлі спектаклі, прысвечаныя 90-годдзю з дня нараджэння народных артыстаў Беларусі Рыты Млодак ды Міхаіла Зюванава, 75-годдзю з дня нараджэння народнага артыста СССР Яраслава Вашчака. На сцэне філармоніі справіў сваё 20-ыя ўгодкі цудоўны музычны калектыў — ансамбль "Кантабіле", дзейнасць якога звязана з адраджэннем і папулярызацыяй творчасці забытых кампазітараў мінулага. Слынная старонка гэтай дзейнасці — першае выкананне п'ес з так званага "Полацкага сшытка", волею выпадку вернутага з нябыту Адамам Мальдзісам. А яшчэ адсвяткавалі мы 25-ты дзень нараджэння тэатра музкамедыі...**

**Першыя месяцы 1996 года былі пазначаны і юбілеямі больш сціплымі, але не менш важнымі для нашай музычнай культуры. У Саюзе кампазітараў, напрыклад, шанавалі паважаную калегу — музыказнаўцу і крытыка Тамару Дубкову, якая вызначылася ў даследчыцкай і публіцыстычнай галіне як аўтарка кніг, брашур, артыкулаў, сцэнарыяў радыё- і тэлеперадач, удзельніца творчых дыскусій.**

**60-годдзе Кіма Цесакова сталася добрай нагодай падсумаваць сённяшнія набыткі гэтага нястомнага творцы і чулага педагога. Не так даўно на старонках "ЛіМа" ішла размова пра новую сімфонію К. Цесакова, а ўжо ў хуткім часе адбылася яшчэ адна філарманічная прэм'ера гэтага кампазітара: адкрыццём шчырай, рамантычнай і закаханай душы прагучала яго "Эпіталама" ("Песня кахання") для аркестра. Ну, а створанае К. Цесаковым раней ужо набыло прызнанне ў музыканцкім асяроддзі: тыя ж струнныя квартэты, або "Беларускія сувеніры" для фартэпіяна, або п'есы для народнага аркестра. Ёсць у кампазітара і кантатна-аратарыяльныя опусы, і радыёопера "Барвовы золак" (паводле І. Мележа).**

**Проста не верыцца, што кампазітару-песенніку Эдуарду Зарыцкаму споўнілася 50! Адзін з самых папулярных і актыўных творцаў на эстрадзе, ён мае ў сваім мастакоўскім багажы і цікавыя камерна-інструментальныя п'есы, харавыя, аркестравыя опусы; музыканты высока цэняць ягоны Канцэрт для габоя з камерным аркестрам, тэатралы з прыемнасцю ўспамінаюць гады, калі Э. Зарыцкі працаваў загадчыкам музычнай часткі ТЮГа і браў чынны ўдзел у стварэнні спектакляў. У яго ёсць нізка рамансаў на вершы А. Вярцінскага, песенны цыкл на вершы Н. Гілевіча і яшчэ шмат прызнаных і зусім новых песень, натхнёных беларускім паэтычным словам...**

**Не так даўно ўдзячныя вучні, калегі, сябры павіншавалі з прыгожай і саліднай датай шчырую нястомную руплівіцу — Веру Сізко. Веру Аляксандраўну ведаюць як сталага педагога, як лектара-прапагандыста і асветніка, як аўтара музыказнаўчых брашур, артыкулаў, перадач на радыё і тэлебачанні. Пакуль дазваляла здароўе, В. Сізко ладзіла найкарысную справу — лекторый для школьнікаў Мінскага раёна. Можна сказаць, што ўдзячныя вучні Веры Аляксандраўны ёсць і сярод іх, але найперш — сярод выпускнікоў Мінскага музычнага вучылішча, дзе яна працавала шмат гадоў.**

**А неўзабаве, 27 сакавіка, будзе адзначацца 90-годдзе з дня нараджэння знанага музыказнаўцы-фалькларыста, даследчыцы беларускай народнай песні, мудрага педагога Лідзіі Мухарынскай.**

## ВІЦЕБСКАЯ АКВАРЭЛЬ



**У адной з залаў мастацкага музея ў Віцебску адкрылася пастаянна дзеючая зала творчага аб'яднання "Віцебская акварэль", у якое ўвайшлі мастакі-акварэлісты розных пакаленняў. Сярод іх — Іван Сталяроў, Фелікс Гумен, Ігар Шкуратаў, Людміла Воранава і многія іншыя.**

**Фота БЕЛТА**

*КУПАЛАЎЦЫ Ў ПРАСТОРЫ СУСВЕТНАЙ КУЛЬТУРЫ*

# КАЛІ ПРЫСЛУХАЕШСЯ ДА САМОГА СЯБЕ

Штосьці з намі адбываецца не зусім для нас зразумелае. Прыслухаешся да розных філіпік на адрас "сучаснай сітуацыі", да зласлівых разважанняў наконт "спрытных дзялкоў", якія нібыта адно толькі і робяць, што ганяюцца за палітычнымі ды матэрыяльнымі дывідэндамі, "хапаюць" і грошы і славу, — і сам падхопліваеш тыя настроі. Непрыязныя. Асуджальныя. І ва ўласным голасе пачынаеш улоўліваць гэткі ментарскі тон, гэтыя дактаральныя інтанацыі ўсяведа. Асабліва — калі мы разважаем пра футбол і... пра тэатр. Ну паслухайце вось мяне і ці не з'явіцца ў вас жаданне параіць мне — а тым сам выйдзі на поле і перадай мяч з фланга ў цэнтр! Паспрабуй узяць тую п'есу, аб якой гаворыш, і хоць бы толькі размяркуй ролі ў ёй паміж тымі ж купалаўцамі...

Не, я не рыгарыст і далёкі ад таго, каб дазваляць толькі прафесіяналам і знаўцам разважаць ды меркаваць пра тактыку футбольных паядынкаў або пра таямнічыя капрызы Мельпамены. Мяне хвалюе тое "штосьці", аб чым мы разважаем, бывае, надта самаўпэўнена, і што на самай справе заслугоўвае больш грунтоўнага асэнсавання. Тое хваляванне востра адчуў я на святкаванні 75-гадовага юбілею нашага Купалаўскага тэатра. Здаецца, і ўдзельнічаў у падрыхтоўцы да яго, апублікаваўшы артыкул у часопісе "Мастацтва", дзе паспрабаваў па-сучаснаму перабраць у памяці факты і асоб, якія пазначылі этапы станаўлення гэтага ўнікальнага тэатральнага ансамбля. І зноў глядзеў самыя значныя сёння на ягонай афішы спектаклі. І нават на ўрачыстасці быў, і мёд там піў... Нейкі дзіўны, я сказаў бы, няўцямны, раней мне незнаёмы прысмак дамешваўся да ўсіх маіх уражанняў юбілейнага свята.

Што ж турбавала цябе, чалавеча? І турбуе, шчыра кажучы, дасюль?.. Мо і ты параўноўваеш сённяшніх артыстаў, што складаюць сузор'е вядучых у трупе, з тымі — знанымі і славутымі. Ах, хто толькі такім параўнаннем не займаецца! Нават і тыя, каму не даводзілася бачыць на сцэне, да прыкладу, Глеба Глебава, абавязкова пасміхнецца: маўляў, добры артыст Г. Гарбук — ды да Глебава яму ў Пранцысю Пустарэвічу вой як далёка...

Азбучная ісціна: у сцэнічным мастацтве заменных акцёраў не бывае. Кожны робіць прыдатнае ягонаму таленту. Непаўторнаму. І — незаменнаму. Ці змог бы хто і з вельмі адораных раскрыць вобраз Васіля Дзятліка ("Людзі на балоце") так, як гэта рабіў Г. Гарбук, — не скажу. А яшчэ ж ягоны Андрэй Буслай ("Парог"), які па-акцёрску надта глыбока абгрунтаваў цікавасць драматурга А. Дударава да якраз такога незвычайнага пратэсту чалавека супроць руціннай паўсядзённасці і механічнага жыцця ва ўмовах "застою" ў грамадстве...

Але і без замен аднаго акцёра другім у спектаклі ён, твор сцэнічнага мастацтва, на падмостках не затрымліваецца. Вытворчая — не толькі творчая! — неабходнасць.

Значыцца, гаркаваты прысмак у юбілейным настроі тлумачыцца не нашым успамінам пра незабыўных артыстаў мінулых гадоў і параўнаннем з іх талентам цяперашніх купалаўцаў. Тады дапусцім, быццам нас не задавальняе мастацкі ўзровень сучасных спектакляў, іхняя рэжысура, выкананне роляў, сцэнаграфія. Вядома, заўсёды ў рэпертуары бываюць безумоўныя ўдачы, нават трыумфальныя, і бываюць прадстаўленні "дзеля касы". Як спрактыкаваныя дырэктары кажуць, адно тэатр робіць для амбіцыі, другое — для амуніцыі.

О, амбіцыя сённяшняга Купалаўскага падтрымліваецца такімі яркімі і па-майстэрску пастаўленымі і выконваемымі творамі, як "Страсці па Аўдзею", "Памінальная малітва", "Тутэйшыя", "Ідылія", "Віват імператар!"... І я не крыўлю душой, калі кажу вам, што гатовы запрасіць да купалаўцаў на памянёныя мной спектаклі або на даўнейшую "Паўлінку", як і на новы "Лес", самага пераборлівага тэатрала, хай гэта будзе масквіч або парыжанін, дэліец або львавянін. І хай бы такі тэатральны гурман сумленна ацаніў акцёрскую дасканаласць і захопленасць разам з глыбінёй рэжысёрскіх трактовак твораў нашага сучасніка У. Бутрамеева і сумнаватага яўрэйскага перасмешніка Шолам-Алейхема, рафінаванага дэкадэнта Э. Іанескі і па-народнаму дасціпнага мудраца В. Дуніна-Марцінкевіча, драматурга на ўсе часы А. Астроўскага і заўсёды прываблівага Янку Купалу. Падобнымі работамі, заглыбленымі ў драматургічную сутнасць літаратурнай першакрыніцы і ўзбагачанымі сучаснымі прыёмамі і фарбамі тэатралізацыі відовішча, купалаўцы падтрымліваюць сваю высокую рэпутацыю.

Пачакайце, пачакайце!.. Разгортваю дзесяты нумар "Мастацтва" за леташні кастрычнік і ў вочы кідаецца катэгарычнае меркаванне, выказанае як прысуд: "Пасля жорсткага ідэалагічнага ўціску купалаўцы вышлі ў свабоднае плаванне, але, напэўна, так і не ведаюць, у каго спытацца: куды плыве карабель?" Ці не засумавала аўтарка артыкула "Чым лідэр узбагачае школу?" Таццяна Арлова па славутым "Агітпропе", па аддзеле культуры ЦК КПБ, па людзях накшталт Савелія Паўлава, Станіслава Марцалева або Івана Антановіча, якія ведалі, у каго трэба тэатрам пытацца пра фарватэр для надзейнага плавання, і якія самі маглі дакладна-дырэктыўна вызначыць порты па тым маршруце, што наканаваны быў сцэнічнаму мастацтву...



*"Дракон" Я. Шварца. Рэжысура і пастаноўка М. Пінігіна.*

Дзіўна! Якое ж гэта "свабоднае плаванне", што гэта за свабодная творчасць і якой яна можа быць наогул, калі тэатр атаясамліваецца з марскім суднам, а мастацкі кіраўнік — з капітанам на камандным мосціку? Бяру вядомы прыклад: ці маглі дакладна абазначыць тыя "порты" (спектаклі), дзе кіне якар ствараемы імі МХАТ, Станіслаўскі і Неміровіч-Данчанка, калі прэм'ера п'есы, якая па сутнасці і вызначыла галоўны кірунак творчых пошукаў мхатаўскай сцэны, за два гады перад тым закончылася нечуваным у гісторыі расійскага тэатра правалам? Але, "Чайка" А. Чэхава на Александрынскай сцэне ў лістападзе 1896 года. Няўжо Т. Арлова думае, што тэатр, беручы ў рэпертуар нібы згорклую ад скандальнага фіяска ў сталіцы імперыі п'есу.., ведаў, куды накіроўваецца карабель? Карабель той выходзіў у плаванне, калі яшчэ не былі напісаны ні "Тры сястры", ні "Вішнёвы сад", не было горкаўскіх "Мяшчан" або "На дне". Калі ў яго трупе не было В. Качалава, Л. Леанідава, В. Гзоўскай, а А. Тарасава, М. Хмялёў, В. Аднроўская, Б. Ліванаў, М. Баталаў, К. Яланская, А. Сцяпанава яшчэ і не нарадзіліся на свет.

Не, аналогія тэатра з караблём — памылковая. У тэатры наперадзе нічога пэўнага — поспех прэм'еры ці правал, удалую п'есу прапануе яму драматург ці пасрэдную, будзе здаровы артыст на ролю Гамлета або Гараднічага ці захварэе, знойдзе рэжысёр запаветны пастановачны ключык у вырашэнні камедыйнага відовішча ці слізгане па паверхні забаўляльнага сюжэта. У тэатры рознае здараецца. А карабель, дык той — па лоцыі, па компасе, па падрабязных картах.. Яго з курсу могуць збіць толькі стыхія або пірацкі налёт, захоп тэрарыстамі...

Прыгадаем нашага Фларыяна Ждановіча. Калі ён адкрываў першы сезон БДТ, які нядаўна святкаваў 75-ую гадавіну, яму і ў галаву не прыходзіла, што пасля "Паўлінкі" і "Раскіданага гнязда" ў драматургічнай панараме яго рэпертуару з'явіцца, напрыклад, плеяда драм і камедый Еўсцігнея Міровіча ("Кастусь Каліноўскі", "Машэка", "Каваль-ваявода", "Кар'ера таварыша Брызгаліна"), а сам аўтар іх стане вядучым рэжысёрам і зменіць на пасадзе мастацкага кіраўніка БДТ яго заснавальніка. А якраз гэтыя пдзеі і вызначылі паэтыку, мастацкую адметнасць акцёрскай трупы, "школу і традыцыі купалаўцаў". Да таго ж БДТ у дваццатым годзе адкрываўся без такіх артыстаў, як У. Уладамірскі, В. Галіна, В. Пола, Б. Платонаў, Э. Шапко. Гэта сёння выглядае малаверагодным, бо "без іх" ці мог выправіцца ў рэйс БДТ!?

Таму я не згаджаюся з Т. Арловай і не лічу прычынай таго гаркаватага прысмаку ад юбілейных урачыстасцей адсутнасць у тэатра ясна вызначанай праграмы. "Канцэпцыі", — як любяць цяпер гаварыць тэатразнаўцы.

Помню адну сустрэчу з Янкам Маўрам у студэнцкай аўдыторыі, дзе гэты добразычлівы мудрэц заклікаў сваіх слухачоў абавязкова і ў любых варунках наведваць тэатр, бо нішто не дае нам такіх плённых і карысных уражанняў, як сцэна, як жывы акцёр.

— Я не сядзеў на прагрэтай сонцам Элады каменнай лаўцы амфітэатра ў Афінах, не быў сярод тысяч узрушаных гледачоў Калізея ў Рыме, не стаяў гадзінамі пад адкрытым небам, гледзячы на сцэну лонданскага "Глобуса", калі там панаваў карыфей драматычных мастакоў свету Шэкспір. Не даводзілася мне бачыць у Пале Раялі спектакляў знанай Камедзі-Франсэз, не наведваў я знакаміты тэатр імя Шата Руставелі ў Тбілісі. Зрэдку шчасціла мне бываць на гастрольных спектаклях маскоўскіх, кіеўскіх, харкаўскіх ды ленінградскіх тэатраў... Вы скажаце: не надта вялікі з Маўра тэатрал! А я — заўзяты тэатрал. Сталы госць у партэры нашага Купалаўскага. І яны, мае любімыя артысты, далучаючы мяне і да вяршыняў шэкспіраўскай трагедыі, і да перлаў італьянскай камедыі дэль артэ, і да дзівосна праніклівых адкрыццяў Астроўскага і Чэхава з Горкім. Я ў партэры прыцемненай і прыцішанай залы плачу або смяюся разам



*У. Рагаўцоў і Т. Мікалаева-Апіёк у спектаклі "Віват імператар!" Э. Іанескі. Рэжысура і пастаноўка У. Савіцкага.*

з героямі Купалы і Крапівы. Мяне ўзрушае лёс закаханых з Вяроны ажно старажытных часоў і хвалюе доля Паўлінкі з вёскі Барысаўскага павета...

Прыблізна так гучала прызнанне ў любові да тэатра, якое са сваёй добрай усмешкай прамовіў тады сівагаловы літаратар, якога, здавалася, ужо нішто не змагло б прымусіць праліць мужчынскую слязу або ад душы засмяяцца. Вось і я іду ў тэатр, патаемна для самога сябе спядзеючыся там непрыкметна праслязіцца або разам з вясёлай залай пасмяяцца. Мяне не цікавіць той маршрут тэатра-карабля, тая надта разумна-рацыянальная канцэпцыя, паводле якой тлумачыў класічны твор ці трактаваў сучасную п'есу рэжысёр. Здавён-даўна вядома, і я ў гэта з юнацкіх год веру, што тэатр — гэта люстра. Жывое люстра. І ў ім мы бачым жывыя абліччы людзей з іх жывымі хваляваннямі, з іх жыццёвымі прыгодамі, якія здатны нас заразіць жывым гарэннем, і мы, супер-ажываючы за ўсё, чым жывуць сцэнічныя персанажы, самі ў сабе адчуваем ачышчальнае прасвятленне.

Люстра... Ну хай сабе і павелічальнае шкло, як любяць паўтараць знаўцы справы. Але ці магчыма загадзя і далёка наперад вызначаць у праграме дзейнасці тэатра тое, што адлюструецца, тое, што з'явіцца і ў якім святле паўстане перад "шклом"? Гэта плануецца толькі пад уціскам пэўнага ідэалагічнага прэса, калі "кіруючая сіла" дазваляе сабе разысціся на ўсе застаўкі ды прымусіць той жа тэатр паказваць са сцэны "жыццё грамадства праўдзіва з пазіцый марксізму-ленінізму". І на працягу доўгіх гадоў рэжысура і акцёрская брація вымушаны былі пацвярджаць, нібы яны толькі тое і робяць, што тлумачаць з'явы і духоўны свет чалавека "з пазіцый". Прадузяты падыход да п'есы, а яна і ёсць першакрыніца "паказу" рэчаіснасці, — гэта што такое? Няўжо, вобразна кажучы, той курс, тая праграма, той напрамак, якім рухаецца карабель-тэатр, паводле вызначэння Т. Арловай? Мне здаецца, наадварот, якраз уменне купалаўцаў паказваць жыццё, іграць ролі так, каб мы не прыкмецілі ні ў чым завучанага, засвоенага з пэўных "пазіцый" і частым паўтарэннем аднаго і таго ж, — гэтае ўменне і выяўляе ш к о л у беларускага акцёрства, т р а д ы ц ы і нашай сцэны. У пералічаных вышэй лепшых спектаклях сучаснага рэпертуару і пануе такая школа, такая традыцыя. Гэта — ад Шэкспіра, ад Гогаля, ад Купалы, ад Гарэцкага, ад Буйніцкага...

Дазволю сабе даць доўгую цытату з дзённікаў драматурга А. Афінагенава. "Усё яшчэ спрачаюцца — інтарэсы якога класа адлюстроўваў Шэкспір? А мне напляваць — быў ён ідэолагам трапіўшага пад уплыў капіталізацыі дваранства або феадалаў... Мне важна — чаму Шэкспір захаваў для мяне значэнне нормы і недасягальнага ўзору..."

Значэнне нормы! Драматычны канфлікт і жывы тады, калі нехта на сцэне, герой і гераіня, парушаюць яе, парушаючы адступаюць ад хаця адной з дзесяці запаведзяў. Так-так, тых самых: "Не рабі сабе куміра. Не вымаўляй імя Бога твайго марна... Не забівай... Не распусьнічай... Не кажы няпраўды пра блізкага твайго... Не жадай дома блізкага твайго, не жадай жонкі блізкага..."

У адным я магу пагадзіцца з Т. Арловай. Праграма, лагічнае абгрунтаванне таго, што прапануецца нам тэатрам, сапраўды могуць быць вызначанымі. Ды толькі п а с л я таго, як мы пазнаёміліся са зробленым, дасягнутым, адкрытым на падмостках. І тут купалаўцы маюць адчувальнае права сказаць, што яны не адзін раз здабывалі пальму першынства ў трактоўцы і мастацкім раскрыцці пэўных жыццёвых праблем.

Адзін прыклад. Ва ўмовах ідэалагічнага кантролю за тлумачэннем у літаратуры і мастацтве ваенных падзей Купалаўскі тэатр звяртаўся да тае драматургіі, якая выводзіла чалавека ў святло рампы, каб паказаць яго вытрымку і адданасць салдацкаму абавязку (або наадварот — яго шкурніцкія разлікі і здрадніцтва) як меру чалавечых магчымасцей і норму сумленных паводзін. Я сцвярджаю ўпэўнена, што наша сцэна першай на абшарах былога СССР у такіх спектаклях, як "Трыбунал", "Апошні шанц" і "Радавыя", закранула пэўныя адвечныя катэгорыі маралі, балючыя і хвалюючыя для ўдзельнікаў любой вайны. Карацей кажучы, яна прымушала нас задумацца над супярэчнасцю дзвюх філасофскіх ісцін, абвешчаных мудрацамі былога. Адна з іх — Мішэля Мантэня: "Няма нічога больш прываблівага, чым вайсковая справа. Узвышаная яна і ў сваім вонкавым выяўленні (бо самая моцная і самаахвярная дабрачыннасць — гэта адвага) і ў аснове сваёй не існуе справы больш слушнай і больш істотнай для ўсіх, чым абарона радзімы і ахова яе велічы". Прыгадайце ўласныя ўражанні ад "Трыбунала", ад "Апошняга шанцу", ад "Радавых" на купалаўскай сцэне — і вы пацвердзіце: г э т а ўваходзіла ў пафас спектакляў. Ды ёсць і другая ісціна, якая абвяшчае не менш важка: "Гераізм і любоў да людзей — амаль адно і тое ж". Але варта гэтаму пачуццю хоць бы трохі збіцца з толку, і "гуманны чалавекалюбец-герой пераўвасабляецца ў лютага шаленца; вызваліцель і захавальнік робіцца прыгнятальнікам і разбуральнікам". Гэта думка англійскага мысліцеля-маралiста Антані Шэфтсберы. І наконт вайны ён жа: "Дайце веры, каб вайна — самае дзікае, што толькі ёсць, была б захапленнем сапраўды гераічнай душы".

Кажу зараз ад імя ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Але, мы вельмі эмацыянальна, не фармулюючы тое, успрымалі такую, відаць, непазбежную для ваяра-жаўнера-салдата ўсіх часоў і народаў супярэчлівасць. Вайна — і самая справядлівая, калі такія бываюць, нават вызваленчая — разлютоўвае самага добрага, робіць бязлітасным да ворага і самага лагоднага, ператварае ў жорсткага мсціўца або захопніка ці не кожнага...

Была такая праграма ў рэжысуры, калі яна прымала да пастаноўкі памянёныя п'есы А. Макаёнка, В. Быкава і А. Дударава? Мабыць, была інтуітыўная здагадка, што паказ годнасці абаронцаў Радзімы (а гэта на пяць з плюсам ацэньвалі ідэалагічныя кіраўнікі) і, адначасова, схільнасці вайскоўца раней ці пазней нават апусціцца маральна, да гвалту, да рабунку, да дэзерцірства, — вось набліжэнне да сапраўднай праўды ў мастацтве пра вайну і пра чалавека з ружжом (аўтаматам, мінамётам, агнямётам — усё адно!). Паўтараю, так разважаў з гледачом тэатр не ў самыя спрыяльныя для творчай смеласці і самастойнасці часы.

Таму мяне дзівіць (каб не сказаць — абурае!) сцвярджэнне Т. Арловай адносна таго, што нібыта мастацкі кіраўнік Купалаўскага, якога быццам і "трымаюць", і "церпяць" на гэтай пасадзе дваццаць гадоў — вы паслухайце! — "бо не бачылі побач лепшага". Валерый Раеўскі, як высвятляецца, — "капітан, які ніколі не ведаў, куды ідзе яго карабель". Ні-колі! Ні тады, калі ўпершыню на беларускай сцэне паставіў Б. Брэхта, ні тады, калі падтрымліваў і спрыяў выхаду на сцэну нашым драматургам, часам насуперак меркаванням таго ж С. Паўлава, С. Марцалева або І. Антановіча, — Я. Шабану з яго "Шрамамі", К. Крапіве з "Брамай неўміручасці", А. Макаёнку з "Пагарэльцамі", "Верачкай" і "Святой прастатой", А. Петрашкевічу з "Напісанае застаецца", І. Шамякіну з драмай "І змоўклі птушкі", А. Дудараву з "Радавымі", "Парогам" і "Вечарам", М. Матукоўскаму з "Мудрамерам". Я ўжо не кажу пра класіку, дзе адкрывалася нешта самабытнае па гучанні і ў "Буры" Шэкспіра, і ў "Рэвізоры", і ў "Лесе"... Канечне, можна такі падбор назваў і імёнаў назваць стракатай мазаікай, без акрэсленай праграмы і вызначанага курсу, — так і робіць Т. Арлова. А падумаем: ці ж поспех той жа Купалавай "Паўлінкі", "Тутэйшых", "Ідыліі" за межамі Беларусі ўжо цяпер, калі і сапраўды неяк няёмка ўспамінаць навата пра "паказ жыцця праўдзіва з пазіцый марксізму-ленінізму", — ці ж гэта недастатковае сведчанне плённых творчых пошукаў таленавітага калектыву!

І ўсё-такі... усё ж... адкуль тое адчуванне прысмаку чагосьці нядобрага, тое прадчуванне нечага падобнага да крызісу, з якім мы адзначалі юбілей Купалаўскага напрыканцы мінулага года? Ці прычына не ў нас саміх? Змяніліся — на горшае ці на лепшае — мы. Пасля ўсёй калатнечы XX стагоддзя, калі канвульсіруюць і распадаюцца імперыі, калі руйнуюцца помнікі выдатным людзям сваёй эпохі, калі рвуцца на шматкі нацыянальныя сцягі, на новыя перамалёўваюцца гербы дзяржаў, калі мацяркі вымушаны хаваць дзяцей у цынкавых трунах, прысланых з "гарачых кропак" (во тэрмін!), калі самыя адданыя партыйцы спальваюць свае членскія білеты, а потым з той жа рашучасцю аднаўляюць сваю партыйную "прыналежнасць", калі спецатрады збіваюць і трымаюць пад арыштам людзей толькі таму, што гэтыя людзі любяць сваю Бацькаўшчыну і аддаюць даніну пашаны змагарам за яе гонар і незалежнасць, — пасля ўсяго таго, чаму мы сталі сведкамі. "Шкляны госць" у кутку вялікага пакоя амаль у кожнай кватэры робіць нас якраз сведкамі і ... гледачамі.

Чаго?

Каго?

Мы чамусьці не вельмі ўважліва і нават з пэўнай пагардай успрымалі адно папярэджанне з канца XIX і пачатку нашага стагоддзя. Мабыць, таму яшчэ, што яно зыходзіла з філасофіі, паводле марксісцкіх ацэнак, цемрашала і апалагета "звыш-чалавека" Фрыдрыха Ніцшэ. Прадчуваючы новае стагоддзе як надыход касмічнай тэхнікі і ўздыму цывілізацыі, гэты немец прарочыў, што вядучай культурнай фігурай будзе ў нашы часы... артыст. Бо свет губляе сапраўдную існасць і яму пачынаюць служыць носьбіты розных масак, прытворы, крыўлякі, аблуднікі, фігляры. Душа размываецца і драбнее ў гэтым няспынным працэсе змены масак, пераўтварэнняў, як цяпер гавораць, змены іміджу па кан'юнктурных запатрабаваннях і палітычных меркаваннях. Дзякуючы тэлебачанню, якое наблізіла да нас твар чалавека і інтанацыі голасу, мы, бывае, бачым, як тое адбываецца з асобай літаральна на нашых вачах. Здараецца, цынічна і бессаромна.

Ды і гэты навамодны тэрмін — "выжыванне", якім мы прыкрываем



*В. Філатаў і А. Дзянісаў у спектаклі "Радавыя" А. Дударава. Рэжысура і пастаноўка В. Раеўскага.*

чамусьці крыўднае для нас паняцце "прыстасаванства", хіба не аб тым жа сведчыць? Каб "выжываць", і трэба ж настройвацца на пэўную хвалю, выбіраць тон размовы, прыкідвацца або паслухмяна-падатлівым просьбітам, або рашуча-патрабавальным і прынцыповым праведнікам, які ўмее стаяць на сваім і сваё права правіць (па-руску "качать права"!).

Дык ці памылялася нябарака Ніцшэ, пагражаючы свету панаваннем у ім фігляра і крыўлякі, аблудніка і прытворшчыка!

Не, я далёкі ад мізантропіі. Ведаю, што чалавечнасць яшчэ не капітулюе перад наступам крыўляк і крыкуноў, але іх цяперашні разгул на палітычнай арэне і ў прыватным жыцці ўсё ж бясспрэчны. Крыўдна, але і гэта ці не найярчэйшая адзнака адыходзячага веку. І якраз нам, сучаснікам таго, я сказаў бы, публічнага маскіравання асобы, маскараднага пераапранання людзей у маштабах макрасвету, даводзіцца заставацца і звычайнымі, у традыцыйным разуменні, гледачамі, наведвальнікамі тэатра.

Глядач цяпер — не той! Ці ўзрушыць яго сляза дзіцяці... смерць каханай.. банкрутства творцы... гібель юнака... роспач дзяўчыны... гора бацькоў... калі ўсё гэта па раней завучаным тэксце п'есы паказваюць прафесійныя акцёры-відавочны? Я пытаю вас, а сам даўно пераканаўся, што сапраўды вялікі талент і сапраўднае мастацтва яшчэ здольны пераадолець наш сучасны скептытызм, нашу спустошана-духоўную абыякавасць, якая авалодвае большасцю тых, хто здагадаўся альбо ўпэўніўся, быццам свет і сапраўды — гэта бясконцы і безупынны тэатр.

Мы — сапсаваныя ўражаннямі ад катаклізмаў нашага стагоддзя гледачы. Гледачы не зусім сапраўдныя. Гледачы па інерцыі, па звычцы, па тым цырыманіяле "наведвання тэатра", які завяшчалі нам і да якога прывучалі нас бацькі і школьныя настаўнікі. Яны верылі ў выхаваўчую місію сцэны, якая можа так узрушыць чалавека, што хабарнік засарамеецца і будзе каяцца, злы разлучнік — адумаецца, бяздушны чыноўнік — скіне пыху з сэрца...

Свет ужо пераканаsuccessfully ў тым, што гісторыя вучыць чалавецтва толькі аднаму: што яна, гісторыя, яго нічому не вучыць. Мо і мастацтва тэатра неўзабаве адмовіцца ад салодкага самападману, быццам паказанае са сцэны жыццё выхоўвае і нават перавыхоўвае чалавека. Мне асабіста не хацелася б думаць так, бо я па-ранейшаму веру ў павучальную місію сцэнічных прыгод і здарэнняў, якія могуць прымусіць мяне (яго, цябе, нас) пусціць слязу або рассмяяцца ад душы. Нешта ў маёй душы здрыганецца, затрымціць. Сцырванею. Азірнуся, каб ніхто таго не заўважыў, і нібы вызвалюся ад нечага. Штосьці з сябе выцісну. Магчыма, таго раба — памятаеце, у Чэхава? — што выціскаецца з душы кропля за кропляй...

Заблытаныя і няпростыя ўзаемаадносіны паміж намі, сучаснымі гледачамі (а значыць, і суддзямі-крытыкамі) і сённяшнім тэатрам. Відаць, і сапраўды сцэна вымушана будзе шукаць новыя формы ўздзеяння на глядзельную залу, пачынаючы з абнаўлення драматургічных прыёмаў, з п'ес, шукаць свежыя фарбы і больш эфектыўныя правілы ігры. Хаця і ўся гісторыя тэатра — гэта абнаўленне мастацтва ўплывова хваляваць сваіх прыхільнікаў-паклоннікаў і неафітаў.

А як жа тая ідэйна-мастацкая праграма, якой, паводле Т. Арловай, пазбаўлены наш купалаўскі калектыў? Што — яна і непатрэбна? Ды не, яна ёсць. Яна дае добры плён. Ёй толькі чужая палітычная дэмагогія. Беларуская сцэна ў лепшых спектаклях паказвае нам чалавека — хто ён, чым ён быў і бывае, якім ён можа быць і нават якім яму належыць быць у пэўных жыццёвых варунках, у пэўным духоўным клімаце, у пэўным грамадскім асяроддзі. І гэтым памагае чалавеку зразумець самога сябе. А той, хто спазнае самога сябе, спазнае і свет, спазнае чалавецтва з яго спрадвечнымі пакутамі і радасцямі, з прасвятленнем і забабонамі, з прызваннем і з пошукамі месца ў сусвеце, на планеце. А пазнанне — гэта работа. Работа душы і розуму. Выходзіць, мы ідзём у тэатр быццам па эстэтычныя ўражанні, адпачыць ад будзённай мітусні і службовых заняткаў, інстынктыўна спадзяёмся, што сцэнічныя хваляванні памогуць нам забыцца пра наш боль, нашы непрыемнасці, нашы клопаты, а нас прымушаюць паварушыць мазгамі!

Вось пра што нельга забываць у крытычных размовах пра сучасны тэатр. Глядач нясе з сабой у залу свае ўражанні жыцця. Парог глядзельнай залы ён пераступае, пасварыўшыся з начальнікам на службе або з гандляром у краме, паглядзеўшы па ТБ уражлівы паказ з месца падзей "заказнога забойства", або акрываўленыя трупы забітых на полі бою (падзеі ў Чачні), крывадушнае выступленне дзяржаўнага лідэра або свайго ж дэпутата на трыбуне Вярхоўнага Савета. Калі раней у глядзельнай зале тэатра мы працягвалі існаваць у так званым адзіным "блоку камуністаў і беспартыйных", як на выбарах, то цяпер сярод нас ёсць і пераможцы, чые галасы "правялі" ў парламент ці на пасаду прэзідэнта краіны таго, каго яны і хацелі там бачыць, і тыя, хто застаўся ў меншасці пасля паходаў на выбарчыя ўчасткі. Сцэна адгароджана ад нас далёка не "жалезнай" заслонай, яна ўспрымае дух і настрой сваіх гасцей, ёй перадаецца наша прыхаваная ветлівасцю раздражнёнасць, наша крыўда, наш гнеў, — то, з чым ты выпраўляўся сёння на спектакль. І гэта робіць яго, спектакль, ва ўзаемадзеянні "сцэны" і "залы" не зусім такім, да чаго мы цягнуліся ў іншай сацыяльна-грамадскай сітуацыі. "Не зусім..." Не "не зусім" і абуджае ў тэатралаў тое прыкрае адчуванне нечага дыскамфортнага. Ці не адсюль той горкаваты прысмак? Прадчуванне нейкага крызісу...

Так, што ні кажы, але тэатр і сапраўды адлюстроўвае заганы свайго часу, імкнучыся па-ранейшаму апець вартасць і хараство чалавечнасці.

**Барыс БУР'ЯН**

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА І У. ШАХЛЕВІЧА*

***Такі подпіс паставіў пад сваімі "Успамінамі" Сяргей Бусел у красавіку 1922 года. У гэты час ён пакідае Коўна і накіроўваецца ў Прагу. Аб прычынах такіх змен у жыцці Сяргея крыху пазней, бо я мела на мэце не толькі ўважліва прачытаць, але прадставіць і растлумачыць гэты цікавы дакумент, прасачыць жыццёвы шлях слуцкага героя. Такую магчымасць дае крымінальная справа Сяргея Нічыпаравіча Бусла, якая захоўваецца ў архіве КДБ. На маю думку, у гэтым сховішчы існуе як бы сама па сабе малавядомая, ці ўвогуле невядомая "паралельная" гісторыя беларускага грамадства, дакладней, несавецкай (ці супрацьсавецкай) яго часткі. І адна з яе старонак — гісторыя жыцця С. Бусла.***

***"27 октября 1939 г. в городе Вильно был арестован активный белорусский эсер Бусел С. Н. Производила арест Вилейская оперативная группа. Оформить этот арест не было возможности, литовские войска входили в город Вильно..." Аб прычынах арышту сведчаць дзве пастановы. У першай, зацверджанай наркомам НКУС БССР, ст. маёрам дзяржбяспекі Л. Цанавам, следчы Рогаў піша: "Бусел С. Н., один из организаторов и активный участник Слуцкого кулацкого восстания в 1920 г., с 1920 г. по момент ареста состоял в партии белорусских эсеров, совместно с членом ЦК этой партии Грибом Фомой в период своего пребывания в эмиграции проводил активную работу против Советского Союза". Змест другой пастановы, складзенай намеснікам начальніка 2-га аддзялення ўпраўлення НКУС па Вілейскай вобласці, сведчыў, "что согласно переданному по телефону списка из Центральной оперативной группы НКВД города Белостока от 26 октября 1939 г. Бусел С. Н. проходит как поль-агент-диверсант".***

***Арыштаванага хутка перавезлі ў Мінск, да суда трымалі ва ўнутранай турме НКУС БССР — сумна вядомай "амерыканцы". У тых умовах інакш і не магло быць. Усё лагічна ў жыцці слуцкага паўстанца.***

# СЛУЦКІ ПАЎСТАНЕЦ

## ПАРТРЭТ НА ФОНЕ ПАДЗЕЙ

Сяргей Бусел нарадзіўся 19 лютага 1901 года ў вёсцы Сукаўчыцы Быстрыцкай воласці Слуцкага павета. Сям'я звычайная, сялянская, не бедная і не заможная — 7 дзесяцін зямлі. Здольны да навукі Сяргей скончыў пачатковую школу, потым Слуцкую гімназію. Вучоба ў гімназіі, безумоўна, вызначальны перыяд у жыцці юнака. У 1917—18 гадах гэтай установай кіраваў Радаслаў Астроўскі, дарэчы, камісар Часовага ўрада ў Слуцку. Менавіта ён клапаціўся, каб вучні гімназіі дасканала вывучалі беларускую літаратуру. Сам прыносіў ім кніжкі, заахвочваў вучняў чытаць газету "Вольная Беларусь". Пад яе ўплывам моладзь усё больш схілялася да думкі, што шлях развіцця нацыянальнай культуры прывядзе ад адраджэння беларускай дзяржаўнасці.

Зусім невыпадкова, што ў 1918 годзе ў мурах гімназіі і нарадзілася маладзёжная культурна-асветніцкая арганізацыя "Папараць-кветка", адным са стваральнікаў якой быў вельмі актыўны гімназіст, завадатар усіх мерапрыемстваў Сяргей Бусел. Ён падхапіў ініцыятыву сваіх сяброў — вучня слуцкай тэхнічнай школы Ракуцько і Фабіяна Шантыра — аб'яднаць моладзь Случчыны для агульнай культурнай і нацыянальнай працы. Сходы, што ладзіла "Папараць-кветка", былі вельмі папулярнымі. На іх гучала беларускае слова, беларускія песні. Сур'ёзна абмяркоўваліся літаратурныя творы, ладзілі спектаклі самі, запрашалі артыстаў з Мінска. З лекцыямі аб адметнасці і самабытнасці беларускай гісторыі перад моладдзю выступалі вядомыя палітычныя і грамадскія дзеячы. Пачэснымі сябрамі "Папараць-кветкі" былі абраны вядомыя случакі Уладзімір Пракулевіч, Павел Жаўрыд, Марк Асвяцімскі, Андрэй Бараноўскі (дарэчы, апошні ў 1919 годзе ўзначаліў арганізацыю і быў яе кіраўніком да вясны 1922 года, пакуль яна не была зліквідавана Слуцкім аддзелам народнай адукацыі, як арганізацыя, варожая савецкай уладзе).

Відавочна, што "Папараць-кветка" знаходзілася пад вялікім уплывам Слуцкай арганізацыі БПС-Р, старшынёй якой быў М. Асвяцімскі, сакратаром — А. Бараноўскі. Нават хорам кіраваў эсэр Васіль Русак, загадчыкам бібліятэкі, сабранай вучнямі, быў Пётра Фёдараў, прыхільнік эсэраўскай праграмы. Вясной 1920 г. уступіў у БПС-Р і наш герой.

Што моладзь не цуралася палітыкі, сведчыць і той факт, што на ўсіх пасяджэннях Слуцкага Нацыянальнага камітэта прысутнічалі сябры праўлення арганізацыі, часцей за ўсё Бараноўскі і Бусел. Такая шырокая дзейнасць слуцкай моладзі не засталася па-за ўвагай грамадскасці. Варта прывесці водгук на выхад часопіса арганізацыі, які надрукавала газета "Беларусь" 15 лістапада 1919 года пад красамоўным загалоўкам "Моладзь ідзе!". "Перада мной ляжыць беларускі часопіс "Наша каляіна", — піша аўтар, што схаваўся за літарамі К-а, — выданы ён у Слуцку. Слуцак — павятовы гарадок - куды яму, здавалася б, лезці ў людзі: ды яшчэ з сваёй газетай! Аднак палез. Беларуская душа, як бачым, жывучая, творчая, як яе не заганяй у казіны рог, а яна збудзіцца і затрапечацца. Мала таго: гэты часопіс з'яўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасці "Кветка Папараці", каторая сваю чыннасць пашырыла на ўвесь Слуцкі павет і нават далей за яго межы. Гэта папраўдзе, як і ў песні спяваецца "А ў Слуцку на рыначку сталася праява!" Так, сябры, гэта вялікая праява! Адбудаванне незалежнасці Беларускай дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь. Чэсць і слава табе, моладзь, паўстаючая з-пад беларускай саломеннай страхі!.. На бок з дарогі, панове і гаспада з Заходу і Усходу. Беларуская моладзь ідзе!"

Дазволіла сабе гэтае вялікае цытаванне, бо падзяляю захапленне аўтара падзеямі ў Слуцку і случакамі. Дарэчы, збіраючы матэрыял для свайго часопіса, С. Бусел і яго сябры Іван Урбановіч і Ракуцько дасталіся ў Мінск, хадзілі да Максіма Гарэцкага і Янкі Купалы. Першы даў ім апавяданне, другі — два свае вершы. Мажліва, аўтар згаданага артыкула "Моладзь ідзе!", падпісанага крыптонімам "К-а", і ёсць сам Янка Купала.

"Папараць-кветка" налічвала больш за 100 сяброў. Амаль усе яны будуць змагацца ў шэрагах паўстанцаў. Цікава, што свае "Успаміны" Бусел пачынае з эпіграфа "Із-пад Слуцка, із-пад Клецка ідзе дружба маладзецка". Як быццам у працяг папярэдняму слову аб случаках.

Шырокімі хвалямі распаўсюджваліся чуткі, "што ў Слуцку збіраецца Беларусь". Народ адразу адчуў глыбокі патаемны сэнс падзей: случакі наважыліся збіраць вакол сябе Беларусь. Вясковая грамада жадала ведаць аб падзеях і абяцала не пашкадаваць фурманкі, каб даехаць да горада. А тут падаспелі і больш дакладныя звесткі. Сяргея наведаў настаўнік з суседняй вёскі, сябра арганізацыі "Селянін". Тут удакладнім. З іншых крыніц вядома, што ў той дзень у Сукачыўцы прыйшоў Язэп Сукала, сябра і аднадумец Бусла, кіраўнік эсэраўскай ячэйкі ў вёсцы Гулевічы. Ён паведаміў, што "па валасцях ездзіць нейкі беларускі дзеяч Бабарэка". Да месца будзе дадаць, што Пётра Бабарэка (дарэчы, ён родам з суседняй Пукаўскай воласці) меў загад Нацыянальнага камітэта правесці сялянскія сходы ў Быстрыцкай, Пукаўскай і іншых валасцях з мэтай абраць органы мясцовага самакіравання, т. зв. нацыянальныя камітэты, і дэлегатаў на з'езд Случчыны. Адначасова ён запісваў моладзь у народную міліцыю, якая ў далейшым паклала пачатак Брыгадзе БНР.

Прыехаўшы ў Слуцк, Бусел быў непрыемна ўражаны расколам, што панаваў у Нацыянальным камітэце, галоўным палітычным і грамадскім цэнтры Случчыны. Частка кіраўніцтва на чале з доктарам Арсенем Паўлюкевічам і начальнікам міліцыі Іванам Мацелі ўсе спадзяванні на поспех у плануемай антысавецкай акцыі ўскладала на дапамогу Польшчы. Эсэраўская палова Нацкамітэта была катэгарычна супроць любой залежнасці ад паноў. Абедзве групоўкі, кожная зыходзячы са сваіх мэт, рыхтаваліся да з'езда. Вядома ж, шмат залежала ад інструктараў па выбарах прадстаўнікоў на з'езд ад валасцей, бо яны першыя ехалі ў вёскі і тлумачылі мэты і задачы з'езда, на мітынгах і сходах даводзілі да шырокага грамадства той ці іншы пункт праграмы. У якасці інструктараў былі накіраваны эсэры Улас Дубіна, Васіль Русак, Юрка Лістапад і наш герой таксама.

На з'ездзе, што сабраўся 14 лістапада 1920 года (у тэксце ўспамінаў памылкова — 17 лістапада), перамагла эсэраўская пазіцыя: "Ні з Польшчай, ні з Масквой; супраць паноў і камуністаў". Сяляне гаманілі паміж сабою: "Мы страна маленькая, самі ўправімся, не трэба нам вялікіх палітыкаў... а калі трэба плаціць падаткі, так лепш свайму ўраду..." Такім чынам, у час няспынных войнаў, агульнага хаосу, рабаванняў і знявагі людзі прыйшлі да думкі, што паратунку трэба шукаць у самастойнай дзяржаве. Тэрыторыю мяцежнага павета аб'явілі часткаю незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Бусел, удзельнік з'езда, сведчыць: "Сяляне, усе як адзін, выказаліся, што час настаў падняць сцяг змагання за незалежнасць Бацькаўшчыны". Антыпольскі настрой быў такі вялікі, што дэлегаты адхілілі прапановы аб дапамозе з боку генерала Булак-Балаховіча, ад якога на з'езд прыехалі брат палкоўнік Язэп Булак-Балаховіч і капітан Антон Самусевіч. Апошні з паўнамоцтвамі фарміраваць полк. Як успамінае Бусел, "на вудачку "балахоўствуючым" не пайшлі... а выбралі сваю Раду Случчыны і даручылі ёй кіраваць паўстаннем. Старшынёй Рады быў абраны Уладзімір Пракулевіч".

Адносіны польскага боку імгненна змяніліся. Як піша далей аўтар "Успамінаў", "пасля з'езда камандзір 11-й (10-й. — **Н. С.**) польскай дывізіі адмовіўся чым-кольвек дапамагчы паўстанцам... Аднак Рада Случчыны не пала духам, назначыла камандзірам брыгады капітана Анцыповіча і пастанавіла змагацца з тым аружжам, якое было".

Так вонкава выглядаюць падзеі, аб якіх паслядоўна апавядае наш герой. У 1939 годзе ён у паказаннях следчаму дапоўніць свае "Успаміны". Пасля ўступлення ў БПС-Р (далей цытую матэрыялы следства. — **Н. С.**) "мне было дано задание создать ячейки в Быстрицкой волости, распространить программу среди крестьян. Около двух месяцев пробыл в деревнях Быстрицкой волости, где разговаривал с крестьянами о целях и задачах эсеровской партии. В деревне Гулевичи была создана эсеровская ячейка — 6 человек..." (Гэта ўжо згаданая арганізацыя "Селянін". — **Н. С.**).

З аналагічнымі заданнямі працавалі амаль ва ўсіх валасцях Слуцкага павета інструктары БПС-Р. Ад Быстрыцкай воласці Бусел быў абраны дэлегатам з'езда БПС-Р, які абмеркаваў планы працы ва ўмовах польскай акупацыі.

Як бачым, падзеям лістапада-снежня папярэднічала карпатлівая партыйная праца, якая станоўча адбілася на грамадскай свядомасці, выхоўвала ў насельніцтва незалежніцкія імкненні. Яшчэ Бусел паведаміць следчаму, што менавіта яму Марк Асвяцімскі, старшыня Слуцкай арганізацыі эсэраў, прапанаваў "агучыць на з'ездзе лінію партыі — "супраць паноў і камуністаў". Асвяцімскі падчас з'езда быў арыштаваны за антыпольскую агітацыю.

У 1939 г. аб мэтах партыі, да якой ён належаў, Бусел выкажацца такім чынам: "Группа Пракулевича предлагала захватить административную власть на местах и ожидать прихода советских войск, но впоследствии все члены комитета перешли на позицию необходимости вооруженной борьбы с советскими войсками".

Такую думку я ўжо сустракала. Яна была выказана адным з кіраўнікоў паўстання У. Пракулевічам у 1930-м годзе падчас сумнавядомага працэсу над удзельнікамі так званага "Саюза вызвалення Беларусі". Вось цытата з матэрыялаў следства, дзе тэрміналогія, само сабою, тагачасная: "В начале, во время подготовительного периода к вооруженному восстанию, они (эсеры. — **Н. С.**) резко выступали против какого бы то ни было вооруженного сопротивления Советам, постепенно, однако, когда организация повстанческих сил полонофилами и балаховцами началась, они уже выдвигают идею вооруженной демонстрации во имя незалежной Случчины. Но и на этой позиции не удержались. Результаты съезда, националистическая физиономия этого съезда, и факт, что повстание все равно отбудется, хотя и без их участия, что помешать ему не в силах, побудило и оформило их нацдемовские настроения. Промелькнувший мираж БНР и опасность со стороны Польши установить протекторат над автономной Случчиной определяет дальнейшую позицию эс-ров и с-деков. Они плетутся в хвосте масс и подчиняются настроению кулацкого съезда вести вооруженную борьбу". Гэта вытрымка з уласнаручных паказанняў Пракулевіча.

Нельга не прыйсці да высновы, што БПС-Р не справілася з роллю лідэра падзей. З аднаго боку, паўстанне адбылося таму, што зусім па-ленінску — была "такая партыя", як падрыхтоўчая, арганізуючая і кіруючая структура, а, з другога боку, рух знізу пайшоў далёка наперад, і партыя ўжо не кіравала, даганяла падзеі.

Шмат сіл адымала супрацьстаянне з паланафільскай групоўкай Нацкамітэта. Паводзіны палітыкаў, якія спрабавалі разыграць польскую карту, можна зразумець. Яны лічылі, што Польшча нядаўна цяжкім шляхам барацьбы набыла незалежнасць і зацікаўлена ў тым, каб мець буфер — тэрыторыю самастойнай Беларусі — паміж сабою і чырвонай Масквою.

Пэўная логіка ў гэтых разважаннях была. Але, на маю думку, эсэры больш цвяроза ацэньвалі абставіны. Не было вялікага сакрэту з таго, што Польшча даволі лёгка падчас Рыжскіх перамоў змагла б дабіцца і далучэння да ўжо набытых тэрыторый яшчэ і Міншчыны. Але не захацела, улічваючы незалежніцкі настрой і нацыянальныя амбіцыі гэтых беларускіх земляў, мець "беларускую скулу" ў сябе пад бокам. Прыклад Случчыны мог быць вельмі небяспечным для акупаванай ёю Заходняй Беларусі. Таму эсэры мелі рацыю, калі ў тых неспрыяльных умовах не разлічвалі на дапамогу заходняй суседкі.

Вось у такіх умовах "Рада інтэнсіўна вядзе працу (мы зноў вяртаемся да "Успамінаў". — **Н. С.**). Пратэст проці захаплення бальшавікамі Случчыны быў адасланы бальшавіцкаму ўраду і для апублікавання за граніцу. Рада пасылала інструктараў растлумачыць сялянам сучаснае становішча. Рада рэквізіцыяў не рабіла, але сяляне самі прыносілі для ўтрымання войска правізію". Праўда, на допыце ў 1939 г. ён скажа, што "брал хлеб в Тимковичах и Семежове... силой и никаких денег крестьянам не платили". Гэтаму хутчэй паверыш, на вайне цяжка заставацца анёлам! "К гэтаму часу ўжо з'ехаліся ўсе паўстанцы: хто на сваім кані вярхом, другія са стрэльбай, з падводамі, наогул з тым, хто што меў. Хутка сфарміраваўся полк, кавалерыйскі атрад і палкавы абоз. Тут жа пры палку была адчынена майстэрня дзеля налады сапсаванай зброі. Камандзірам палка быў назначаны капітан Чайка. Ён добра павёў справу. Полк хутка пачаў узбройвацца стрэльбамі, адабранымі ад бальшавікоў".

Далей аўтар распавядае гісторыю здрады Паўла Чайкі (той перабег на бок Чырвонай Арміі, быў асуджаны ЧК "за арганізацыю войска Беларускай Рады" і 7 студзеня 1921 г. расстраляны. — **Н. С.**), але ён не абвінавачвае камандзіра Слуцкага палка, а лічыць яго ахвяраю абставін і прошукаў балахоўцаў, якія жадалі бачыць на камандзірскай пасадзе свайго прадстаўніка — Антона Самусевіча. "З пабегам Чайкі пачалося адступленне", — канстатаваў Бусел. Нягледзячы на ўпартыя баі "пры абароне Вызны была праяўлена дзіва храбрасці". З вышыні пройдзенага часу дзіўна нават не тое, што паўстанцы разлічвалі на поспех у сутыкненні з рэгулярнай арміяй (!), а тое, якія непрымірымыя былі ў адносінах паміж сабою дзве групоўкі ў кіраўніцтве паўстаннем, аб чым са шкадаваннем паведамляе аўтар. І гэта ў той момант, калі чырвоныя расстрэльвалі і тых і другіх, гналі іх у нейтральную паласу, вымушалі скласці зброю. Неабгрунтаваная амбітнасць, нястача здаровага сэнсу, варожасць і супроцьстаянне палітыкаў самым негатыўным чынам паўплывалі на вынікі паўстання. Вялікі гістарычны ўрок тоіцца ў тых падзеях. Але ўстрымаюся ад аналогіі з сучаснасцю і прапаную дачытаць "Успаміны" да канца.

"На шчасце, спрачацца не прыйшлося доўга, бо бальшавікі падаслалі інапляменныя аддзелы, так што чырвоная лапа камуністаў гатовілася захапіць паўстанцаў са штабам. Палякі ж, ідучы насустрач бальшавікам, далі права бальшавіцкаму войску на 96 гадзін зайсці і за нейтральную паласу, праследуючы партызанаў. Прыйшлося перайсці граніцу. Тут палякі разаружылі паўстанцаў і інтэрнавалі. Частка, праўда, асталася і пайшла ў лясы... Цяжка далося бальшавікам арганізаваць валасныя і павятовыя іспалкомы, бо сяляне адмаўляліся прымаць удзел, кажучы: мы выбіралі Раду і па дзесяць раз выбіраць не будзем. А ў вёсцы Гулевічы сабралі сход выбраць сельсавет. На сход прыйшоў адзін стары дзед... доўга слухаў стары на сходзе спрэчкі, а потым у канцы сказаў, што вы тут пераліваеце з пустога ў парожняе, яшчэ ж няма пяці хлопцаў паўстанцаў з вёскі, нешта ж яны думаюць! Пасля гэтага сход ні з чым разышоўся".

І пасля паражэння паўстання наш герой не сышоў з дарогі барацьбы. Ён са сваімі паплечнікамі апынуўся ў Вільні ў Беларускім батальёне, які ўзначаліў палкоўнік Гапановіч. Служыў, праўда, нядоўга: прапольская дзейнасць гэтага аддзела супярэчыла яго эсэраўскім перакананням. У той час эсэры

*(Працяг на стар. 15)*

*Успаміны "Слуцкае паўстанне" захоўваюцца ў БДА МЛіМ.*

## ДЛЯ СЯБЕ І ЛЮДЗЕЙ



**Славіцца сваімі майстрыхамі па вырабе дываноў вёска Заполле Карэліцкага раёна. Яўгенія Мікалаеўна Арабей і Людміла Мікалаеўна Бар'ят (на здымку) робяць набіўныя дываны ўжо шмат гадоў. У доўгія зімовыя вечары пенсіянеркі збіраюцца разам, прыдумваюць малюнак, падбіраюць неабходныя па колеры ніткі, пачынаюць працаваць. Глядзіш, дзён за дваццаць і з'яўляецца навінка.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## ПРЫГОЖАЯ І ТАЛЕНАВІТАЯ



**Ганна Кір'янава (на здымку) — актрыса Беларускага тэатра "Лялька" ў Віцебску. 7 гадоў працуе яна тут. Сваё майстэрства і ўменне перадае выхаванцам гуртка пры абласной станцыі юных тэхнікаў.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## З ЛЮБОЎЮ



**Любоў да народнай творчасці ў Апольскім сельскім Доме культуры Іванаўскага раёна, дзе працуюць шматлікія самадзейныя калектывы, прывіваюць з дзяцінства. Дзеці займаюцца ткацтвам, вышыўкай, спяваюць танцуюць. Асаблівы гонар школы народнай творчасці складае студыя гармошачнікаў, якой кіруе былы калгасны будаўнік Васіль Пятровіч Голік. У ёй сёння іграе 15 дзяўчынак і хлопчыкаў.**

*На здымку: В. П. Голік і яго выхаванцы Таня Магуйка і Таня Герцік, Коля Упіравец, Алёша Шаўчук і Саша Герцік.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА.*

# "НАМ ТРЭБА ЎВЕСЬ ЧАС БЫЦЬ НОВЫМІ"

***Іх песню "Прэзідэнт, ідзі дамоў!" забаранілі перадаваць па Беларускім радыё. Але праз гэта яна стала яшчэ больш папулярнаю, і загучала на "нефармальных" імпрэзах ды вечарынах, там, дзе з'яўляецца "Новае неба". Аднак іхняя вядомасць абумоўліваецца не толькі напісаннем песні з "эпатажнай" назвай. Шматлікія канцэрты, запіс альбомаў, гастролі за межамі Беларусі — таму пацвярджэнне. Пра "Новае неба" расказвае лідэр гурта Кася КАМОЦКАЯ.***



— Спачатку, гадоў 5-6 таму, я была бардам, спявала свае і чужыя песні. Потым хлопцы з "Мроі" дапамаглі запісацца мне на радыё з іншымі інструментамі, апроч гітары. Пазней я знайшла дзвюх дзяўчынак, якія вучыліся ў кансерваторыі — віяланчэль і скрыпку, і мы з гітарыстам Леанідам Шырыным, з якім раней выступалі ўдвох, узялі іх да сябе. Такім быў першы склад "НН". За пяць гадоў ён, канешне ж, трансфармаваўся, і цяпер у нашым складзе ёсць два чалавекі з "Мроі" (Лявон Вольскі і Юрась Ляўкоў), а таксама віяланчэлістка Юля Глушыцкая, якая грае ў адным з сімфанічных аркестраў.

**— Чаму вы перайшлі ад бардаўскай песні да року?**

— Захацелася іншага гучання.

**— За час існавання "НН" выйшла чатыры альбомы, і ўсе яны вельмі розныя, не падобныя адзін на аднаго. Такое непадабенства і паводле стыляў, і паводле гучання рабілася наўмысна?**

— Так. Бо і назва ж у нас такая: "Новае неба" — трэба ўвесь час быць новымі. Не спецыяльна рабіць штосьці адрознае ад таго, што ўжо было, а проста не абмяжоўвацца ў музыцы ніякімі рамкамі.

**— Апошні альбом, што выйшаў у 1995 г., называецца "Go Home" (Ідзі дамоў). Гэты заклік каму адрасаваны?**

— Кожнаму. Пайсці дамоў, звярнуцца да сябе, у рэшце рэшт.

**— Але песню "Прэзідэнт, ідзі дамоў", якая адкрывае альбом, улады ўспрынялі на свой адрас...**

— Дык няма ж нічога паганага ў тым, каб пайсці дамоў!

**— На Беларускім радыё яе забаранілі...**

— Забаранілі. А гукарэжысёр, які паставіў яе ў эфір, быў адлучаны ад працы. Потым пра гэта гаварылася на агульна-радыйнай і агульнатэлевізійнай "лятучцы".

**— Калі вы займаліся бардаўскай песняй, вершы пісалі самі?**

— Не, я ніколі не пісала песень на свае словы. Заўжды побач са мной былі такія файныя паэты, што было залішне спрабаваць у гэтым яшчэ й сябе.

**— А сапраўды, чаму такая шырокая група аўтараў супрацоўнічае з вамі — Глобус, Таццяна Сапач, Сыс, Анемпадыстаў, Вераціла й іншыя.**

— Напэўна, таму што я чалавек шырокай натуры і ў мяне шмат сяброў — цікавых, таленавітых. Яны любяць "НН" і з ахвотай прапануюць тое, што напісалі.

**— Амаль усе новыя песні з альбома 1995 г. створаны на вершы Анемпадыстава...**

— Так, я зараз супрацоўнічаю менавіта з ім. Таму што Сапач і Глобус фактычна перасталі пісаць вершы, Сыс — я ўвогуле не ведаю, ці піша ён што-небудзь. Атрымліваецца — Анемпадыстаў запаўняе сабой усю прастору. Да таго ж Міхал піша вельмі трапныя вершы. А тэкст мусіць быць вельмі трапным і вобразным. Не кожны верш можа стаць тэкстам, таму што ёсць і самадастатковыя вершы, і якія ўвогуле не могуць гучаць. Анемпадыстаў піша быццам бы па-дзіцячы, і таму ўсім зразумела. Мне гэта падабаецца.

**— Тым не менш, тэкст да песні "Прэзідэнт, ідзі дамоў" напісалі вы?**

— Гэта словы "Новага неба". Ідэя песні ўзнікла пасля рэферэндуму, а не прэзідэнцкіх выбараў. Больш крыўды было не на тэкст, а на беларускі народ. Калі людзі ўважліва слухалі тэкст, то маглі ўбачыць, што прэзідэнт там ні пры чым — ён проста адлюстроўвае жаданні нашага народа, і большае абурэнне выклікаюць якраз гэтыя жаданні.

Пра свае вобразы, думкі, якія ўзніклі ў мяне, я расказала Лявону Вольскаму. Ён напісаў першую страфу, а потым мы ўжо разам дапісвалі ўсё астатняе. Гэта якраз было прыкладам калектыўнае творчасці.

**— Занятак музыкай, у прыватнасці, беларускім рокам — справа прыбытковая?**

— На жаль, яна не стала прыбытковай. Калі б нармальныя працэсы былі не перапыненыя тым, што здарылася ў нашай дзяржаве, то, пэўна, яна магла б стаць прыбытковай. Не толькі беларускі, але й любы рок. Пераход да нармальных умоў існавання эканомікі зараз спынены, ці, ва ўсялякім разе, запаволіўся, і таму гэтая справа не можа быць выгаднай у матэрыяльным плане. Нават канцэртная дзейнасць.

**— А рэалізацыя касет?**

— Столькі перашкод пастаўлена на шляху гандлю, вытворчасці... Так што танная касета можа быць толькі дрэннай якасці. Нізкая пакупніцкая здольнасць народа не дазваляе рабіць добрыя касеты, а няякасныя ніхто не будзе купляць.

**— Вас не засмучае тое, што вас слухае, у асноўным, толькі беларускамоўная моладзь?**

— А каго цяпер з беларусаў слухаюць, можаце назваць? Хіба што Саладуху?

**— Хіба што. Але ці зусім немагчыма "раскруціцца" на ўсю Беларусь?**

— Калі б былі мецэнаты... Усё ўпіраецца ў грошы. Рок-музыка не з'яўляецца бізнесам, яна сябе не акупляе, тым больш — не прыносіць прыбытку. І таму можна разлічваць толькі на мецэнатаў, якія будуць укладаць грошы таму, што яны любяць гэтую музыку й хочуць, каб яе пачулі. А спонсар сам жадае нешта атрымаць ад гэтага.

**— Калі музыка не прыносіць прыбытку, значыць, вы недзе працуеце?**

— Так, на радыё М101,2. Праўда, гэта нельга назваць сапраўднай працай, я проста вяду сваю музычную праграму, якая называецца "Пра Рок" і прысвечана беларускаму (не толькі беларускамоўнаму) рок-н-ролу. Я хачу нейкім чынам запоўніць эфір беларускай рок-музыкай, даць магчымасць гуртам паслухаць сябе ў эфіры. Бо ні дзяржаўнае, ні мінскае радыё Бі-Эй (на якім ёсць толькі праграма "Новости русского рок-н-ролла") гэтым не займаюцца. Так што пэўную ролю адыгрываюць і патрыятычныя пачуцці.

**— Вы цяпер пішаце новы альбом?**

— Так, запісалі тры песні. Мы вельмі рады, што ўжо маем сваю студыю, не шыкоўную, канешне, але сваю. І гэта вельмі добра — не трэба нічога арандаваць, нікуды спяшацца, а можна выдаваць па адной песні, і потым з лепшых складаць альбом. Таму што зараз усе гурты працуюць такім чынам, што альбом у іх падсумоўвае нешта напісанае за пэўны перыяд. А я прыйшла да высновы, што альбом — гэта тое, што вельмі шчыльна звязана паміж сабой тэматычна, настраёва. Гэта не справаздача...

**— Некаторыя свае старыя песні вы запісваеце ў новых аранжыроўках...**

— Калі мяняўся наш склад, гэтыя песні пачыналі гучаць па-новаму, і шкада было іх не ўключыць... У мяне яшчэ ёсць задумкі запісаць некалькі зусім старых песень.

**— Скажыце, чаму моладзь, якая прыходзіць у рок, спявае па-ангельску? Як з'явілася гэтая плеяда беларускамоўных гуртоў — "Крама", "Мроя", "НН", так яны амаль адны і засталіся, і ніхто больш не хоча гэтым займацца?**

— Напэўна, гэта адлюстроўвае агульную сітуацыю ў нашай краіне — дзяржаўную антыбеларускую палітыку... Чаму не па-расійску — мусіць, гэта дзіцячыя ўяўленні наконт таго, што яны могуць прабіцца на заходні рынак. А як мы ведаем, ніводнага такога прэцэдэнту ні ў Беларусі, ні нават у Расіі не было. Можа, канешне, група пагастралявацъ, але там сваіх настолькі багата...

**— А самі вы не спрабавалі апошнім часам "прабіцца" на Захад?**

— "Новае неба" — адзіны беларускі гурт, які ўдзельнічаў у фестывалі такога рангу, як "Роскілд-93", які праводзіцца ў Даніі. Разам з намі выступалі "Антракс", "Моторхэд", Крыс Айзек і інш. Гэтым летам мы былі ў Францыі з акустычнымі канцэртамі. Ездзім, канешне ж, у Польшчу...

Што значыць "прабіцца" на Захад? Туды можна толькі з'ездзіць, каб прывезці крыху грошай. А ў каго ёсць амбіцыі "прабіцца", у таго няма разумення сітуацыі ў свеце.

**— Склад вашага гурта доўгі час існуе амаль без змен, гэта значыць, нейкіх музычных эксперыментаў не было?**

— Былі спробы браць іншых музыкаў. Напрыклад, вельмі файнага бубнача Сашу Камінскага (вядомага пад мянушкай Кот), але ён захварэў і не вытрымліваў напругі — у нас тады было шмат працы, гастроляў. Ён жа прывёў з сабой саксафаніста, але той хлопец, на жаль, памёр.

У прынцыпе, я свядома не змяняю складу, бо сама я прыношу толькі мелодыю песні, а потым яе дапрацоўваем, змяняе ўвесь гурт — і гэтую творчасць лічу інтымнай рэччу. Таму не хацелася б пашырацца за кошт чужых людзей. Са сваімі вельмі лёгка працаваць — усе добра адчуваюць, што ад іх патрабуецца, схопліваюць настрой песні.

**— Вы лічыце гучанне вашага гурта нетрадыцыйным?**

— Канешне. І склад нетрадыцыйны. Магчыма, гэта звязана й з тэмбрам майго голасу, і з тым, што я выхавана не на рок-н-роле. Таму ў гармоніях і мелодыях прысутнічае нерок-н-рольны пачатак — у нас, хутчэй, альтэрнатыўная музыка.

**— Шмат якія з вашых песень маюць сацыяльнае адценне. Ці не здаецца вам, што час сацыяльнай тэматыкі ўжо мінуў?**

— Па-мойму, наадварот, ён толькі надыходзіць. Нядаўна нацыянальная сімволіка, мова, былі дзяржаўнымі — менавіта тады можна было пераходзіць да лірыкі. Якраз цяпер ёсць дзе разгарнуцца сацыяльнаму рок-н-ролу.

**— Поспехаў вам!**

**Гутарыў**
**Аляксей ШЭІН**

Масей СЯДНЁЎ

# ЗАБРАНЫ МЕНСК



## 25 САКАВІКА 1918 ГОДА

Маразянае сонца у вокны цякло
прахалодаю сакавіковаю.
І ламаліся раніцы —
быццам конніца тонкае шкло
разбівала падковамі.

Быццам трэскаліся караблі,
наваленыя лядзінамі...
А дні былі
глыбока сінімі.

Раставала зямля і бухла,
дымілася — на гары — уся,
нібы ў сонечнай кухні
яна варылася.

Ад пяшчоты кожны размяк —
ад старога да самага блазна
чуліся лёгка, як
пасля Божае лазні.

Але ноч зямлю, ідучы,
шкліла з новаю сілай.
Толькі дзесьці, нібы ключы,
пад зямлёю вада званіла.

Быццам конь ледзяны скакаў —
як цымбалы, званілі галінкі...
Слёзы сінія сакавіка
замярзалі ў лядзінкі.

Зямля жыла ў трывозе заячай,
ды што б зямля ні гавары —
спакойна сонцам граючы,
гарэлі над зямлёю вечары.

У вуліцах, дзвярах расчыненых
стаяла сонца і плыло,
гуляла па вітрынах і па шчылінах
і білася наскрозь у шкло.

На вузенькай яно Нямізе,
бы ў залатую клалася труну,
чытала ў яе старадаўняй кнізе
і праўду вечную й ману.

Вось зараз за гарою сонца хліпне,
загасне у правалілі.
О калі б мы
яго ад гэтага ўтрымалі...

А над усёю шэрасцю, над ўсім, што
поўзае,
над лірыкай заходу — смеласцю рукі
працягнуты плакат суровай прозаю
з мінулага у прышлыя вякі.

І для адных збаўленнем, а для іншых
змеямі,
нязвычным нечым літары пяклі:
"...магчыма, заўтра зменіцца
хоць крышку геаграфія зямлі..."

— Якая БНР там! Што за глупства?
Усіх пасячом на капусту!

— Хто крамолу такую пасеяў? —
Дзеляць матушку-Расею?

— Беларусь мае быць незалежнай
рэспублікай? —
Ну і публіка!

Поўнач гадзіннік баўкнуў —
быццам які вартаўнік
ударыў па нечым палкаю
і невідочна знік.

Гадзіннікам вежа хрыпела,
як горлам іржавым хрыпяць.
З каменнага ейнага цела
Нехта зірнуў на пляц.

Пляц як бы нечым сцёбнулі,
зняўшы з яго замок —
цэрквамі і касцёламі
ён звярхнуўся і змоўк.

Толькі шырэй расступіўся —
і адыходзіла гушчыня,
калі ён свайго летапісу
балонкі паранчыняў.

Ціха было навокала.
Толькі праз брук і масты
далёка, далёка цокалі
конніцы капыты.

Усё — бы ў вялізным вальсе:
і лад, і мітусня.
Трэскаючы, рвалася
грозная цішыня.

У маршы ішлі і без маршу
жаўнеры адзінай радні.
А з імі Нязнаны Маршал
на белым кані.

Ад здзіўленасці жаўнеры,
гатовыя на нажы,
у стройных ныхтах шэрых
шорхлі ў маўклівай цішы.

Як вецер, нястрыманым гонам —
што дух ні адзін перавёў —
прамчалася хутка Пагоня
паміж скамянелых радоў.

І стала. Гадзіннік баўкнуў —
быццам які вартаўнік
ударыў па нечым палкаю
і невідочна знік.

Гадзіннікам вежа хрыпела,
як горлам іржавым хрыпяць.
З каменнага ейнага цела
Нехта зірнуў на пляц.

Такая, што дух не зачэпіць,
ды чутная сэрцам усё ж,
па строях, як ціхі шэпат,
прабегла лёгкая дрож.

Жаўнеры галовы паднялі:
на вежы — суровы на твар —
у золаце і медалях
краіны стаяў Уладар.

Маўклівы і нерухомы.
Як быццам святло
ад ўлады яго вярхоўнай
у сэрцы ваякаў цякло.

Схіліўся ледзь-ледзь галавою...
Да йгры як падносяць смык —
махнуў ён байцам булавою,
на Шлях паказаўшы... і знік.

У шаломе высокім і вострым,
што вораг не мог яму ссеч,
з дружынамі Маршал гойсаў,
высока трымаючы меч.

Гадзіннікам не хрыпела
вежа, як горлам хрыпяць.
З каменнага ейнага цела
ніхто не глядзеў на пляц.

Усё стала ціха навокала,
толькі праз брук і масты
далёка, далёка цокалі
конніцы капыты.

Кішэла ўсё чужою мітуснёй.
І Менск, скаваны мітуснёю,
пад цяжкай славаю сваёй
схіліўся непакорнай галавою.

І ў Свіслач плакаў ціхімі слязьмі:
"У грудзі б'юць мяне мячамі,
і ранаў не магу я змыць..."
Маўчала даль і ўсё маўчала.

Штыкі чужацкія прыйшлі,
Штыкі з бязлітаснай, халоднай сталі.
На нашай збуджанай зямлі
смяротэльнай цішынёю сталі.

Толькі сонца у вокны цякло
прахалодаю сакавіковаю.
І ламаліся раніцы —
быццам конніца тонкае шкло
разбівала падковамі.

Быццам трэскаліся караблі,
нагружаныя лядзінамі...
А дні былі —
глыбока сінімі.

*1947 г.*

# СЛУЦКІ ПАЎСТАНЕЦ

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

працягвалі барацьбу супраць польскага ўладарання на землях Заходняй Беларусі. На Віленшчыне Бусел быў шырокавядомы як агітатар і прапагандыст ідэй БПС-Р. З мэтаю пашырэння партыйных радоў дастаўся ў Лодзь, дзе вясной 1921 г. яшчэ затрымаліся рэшткі Беларускага батальёна. Гэта баявая адзінка, сфарміраваная яшчэ ў 1919 годзе, папоўнілася маладымі случакамі пасля інтэрнавання Брыгады БНР. Гэтая яго праца не засталася незаўважанай мясцовымі ўладамі: яго арыштавалі і трымалі больш чым месяц на гаўптвахце. Пасля вызвалення — зноў у Вільні, зноў сумесная праца з Уладзімірам Пракулевічам, Васілём Русаком, Цімафеем Мяшэчкам. Усё тыя ж неўтаймаваныя случакі. І зноў раз'езды па Віленскім краі, агітацыя ў Баранавічах, Нясвіжы, Клецку. Збіраў людзей на сходы, тлумачыў ім праграмныя дакументы эсэраў, прапаноўваў адпаведную літаратуру, заклікаў на барацьбу з панамі. У Вільні жыў на Вострабрамскай, 9 — канспіратыўнай кватэры Беларускага нацыянальнага камітэта. Там жа знаходзіўся склад нелегальнай антыпольскай і антысавецкай літаратуры.

У пачатку 1922 г. увесь склад Нацкамітэта быў арыштаваны за супрацьдзеянне выбарам у польскі сейм. Бусел уцякае ў Літву. У Коўне па вуліцы Міцкевіча яшчэ месцілася Міністэрства беларускіх спраў. Але і тут не затрымаўся, лёс пагнаў далей. Атрымаўшы беларускі пашпарт і грошы ў Ластоўскага, пакінуўшы свае "Успаміны", з якімі мы ўжо паспелі азнаёміцца, Бусел едзе ў Прагу.

Прага ў тыя часы гасцінна сустракала беларускіх выгнаннікаў. Вялікі дзякуй ёй за гэта. Антыбеларуская палітыка польскіх улад вымушала беларускіх дзеячаў пакідаць землі, ім падуладныя, і шукаць іншы прытулак.

У Чэхіі была магчымасць вучыцца, нават атрымліваць стыпендыю. Гэтыя спрыяльныя ўмовы случакі добра выкарыстоўвалі. Вучыліся ў Пражскім універсітэце, палітэхнікуме і іншых установах. Утваралі розныя палітычныя і грамадскія студэнцкія арганізацыі, актыўным сябрам якіх заўсёды быў Бусел. У Празе ён набыў вышэйшую адукацыю, скончыўшы ў 1929 годзе агранамічны факультэт Вышэйшай тэхнічнай школы. Беспрацоўе вымусіла пакінуць Прагу і вярнуцца ў Вільню. Дапамог уладкавацца з працай і жыллём стары знаёмы — Радаслаў Астроўскі. Ён прапанаваў месца тэхнічнага рэдактара часопіса "Саха" і газеты "Наперад". Зразумела, што ўбаку ад палітычнай справы былы паўстанец не застаўся. Ён уваходзіць у арганізацыю "Цэнтрасаюз", утвораную з мэтай каардынацыі і ўзаемасувязі ўсіх беларускіх сіл, якія дзейнічалі ў 30-я гады ў Вільні. "Цэнтрасаюз" аб'ядноўваў культурныя і гаспадарчыя ўстановы, кааператывы. Пад яго дахам сабраліся Беларуская гімназія, настаўніцкі саюз, выдавецтвы, кніжныя крамы і г. д. Па загадзе старшыні замежнага цэнтра БПС-Р Тамаша Грыба Бусел пачаў гуртаваць вакол сябе віленскіх эсэраў. З Клецка на дапамогу прыехаў Мікола Чарнецкі. Пачалі ўтвараць арганізацыю "незалежных сацыялістаў". Праца, трэба сказаць, ладзілася. У 1932 г. выйшаў першы нумар часопіса "Золак", "орган Беларускай маладой сацыялістычнай думкі". Рэдагаваў часопіс спачатку Чарнецкі, а потым Яўген Аніська. У арганізацыю эсэраў увайшлі маладыя віленчукі Чэслаў Буцько, Аляксандр Барановіч, Аляксандр Шукілойць і іншыя. Арганізацыйныя здольнасці Сяргея былі неабмежаваныя. Шэрагі партыі павялічваліся. Часопіс "Золак" выходзіў па 1938 год уключна і меў поспех. Пазіцыя рэдакцыі, якая вельмі крытычна ставілася да паланафільскіх ухілаў "Цэнтрасаюза" і хадэцыі Станкевіча і прасавецкай пазіцыі КПЗБ, прывабілівала шырокія колы чытачоў. Шмат хто падзяляў галоўную думку часопіса, што ў палітыцы трэба абапірацца на сілы ўласнага народа. Такая стратэгія вымагае вялікай асветніцкай і прапагандысцкай працы ад палітыкаў. Такім цяжкім шляхам да поспеху заўсёды ішоў сам Бусел, не шкадуючы сіл, арганізоўваў розныя гурткі і аб'яднанні. Дачыніўся і да ўтварэння Таварыства беларускай школы, якое ва ўмовах польскага ўціску ўпарта змагалася за нацыянальную школу. Найбольш буйныя арганізацыі ТБШ у канцы 20-х і пачатку 30-х гадоў з яго ўдзелам былі ўтвораны ў Вільні і Беластоку. І да моманту забароны ТБШ польскімі ўладамі ў 1937 годзе гэтая арганізацыя шмат зрабіла для адкрыцця і захавання беларускіх школ, асабліва ў вёсках, падрыхтоўкі беларускіх настаўнікаў. Самы час зараз успомніць цэлы вопыт працы абаронцаў беларускай школы, што змагаліся за яе з акупацыйнымі ўладамі.

Каб не забыліся пра недалёкае мінулае, пра свой гонар, і ў першую чаргу моладзь, у 1931-м годзе Бусел ладзіць святкаванне 11-ых угодкаў Слуцкага паўстання. Для падрыхтоўкі мерапрыемства папярэдне ўтвараецца Камітэт, у які ўвайшлі знаёмы Бусла па Слуцку, удзельнік паўстання Куніцкі, доктар Сяргей Сарока, студэнт Шкуцько і іншыя. Камітэт выдаў зварот: "Беларусы! Прайшло 11 год, як лепшыя сыны беларускага народа змагаліся за незалежнасць Бацькаўшчыны супраць савецкай улады", заклікаў святочна адзначыць гадавіну падзеі. Віленскі магістрат не супярэчыў, нават прадаставіў памяшканне. Беларусы сабралі грошы. На сход прыйшлі прадстаўнікі ўсіх беларускіх партый і груповак. Свята аб'яднала іх. Урачыстае пасяджэнне пачалося ўвечары 15 лістапада, у гадавіну з'езда Случчыны. Галоўны даклад "Слуцкае паўстанне супраць Саветаў у лістападзе-снежні 1920 года" зрабіў Сяргей Бусел, ініцыятар імпрэзы.

"Я выклаў гісторыю беларускага руху на Случчыне, настойліва падкрэсліваючы думку, што барацьба супраць Саветаў была барацьбой за незалежнасць Беларусі", — патлумачыў Бусел змест свайго даклада следчаму на допыце. На вечары ўспаміналі загінуўшых і яшчэ жывых, зняволеных у ГУЛАГу.

Удзел у паўстанні асуджаў на смерць. Гэтага "грэху" савецкая ўлада не даравала. А калі былыя паўстанцы змаглі схавацца і захавацца ў 20-ыя гады, то ў сумнавядомыя 37—38-я гады пакаранне іх не абмінула. Не пазбегнуў гэтай долі і наш герой. 19 лютага 1940 года справа Сяргея Бусла разглядалася ў закрытым судовым пасяджэнні ваеннага трыбунала без удзелу прадстаўнікоў дзяржаўнага абвінавачвання і абароны і без выклікання сведкаў. Слуцкага паўстанца прыгаварылі да 15 год пазбаўлення волі без канфіскацыі маёмасці ў сувязі з яе адсутнасцю.

На жаль, далейшы лёс нашага героя невядомы.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі Івану ШАМЯКІНУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры Таццяны Пятроўны Шамякінай.**

